ЗМІСТ — INHALT — CONTENTS — TABLE DES MATIÈRES

# АКАНЬНЕ — БАЛЦКАЯ РЫСА Ў МОВЕ ВЯЛІКАЛІТОЎСКАЙ[1]

*Ян Станкевіч*

Археолёґія, гідроніма, топоніма, антрополёґія а этнографа выразьліва сьветчаць, што народ вялікалітоўскі схармаваўся ізь зьліцьця часьці Славян із часьцю Балтаў. Давялі гэта чысьленыя навучоныя ў менаваных галінах веды. У вапошняй працы В. Седава[2] зроблена падсумаваньне ўсяго дагэтулешняга дасьледаваньня паходжаньня народу вялікалітоўскага, вылічаны аўтары й працы іхныя. Затым можна спадзявацца, што адбіцьцё балцкага субстрату зьдзеялася і ў мове вялікалітоўскай. І запраўды так ё.

Галоўнаю рысаю, паўсталаю пад дзеяньням моўнага субстрату балцкага ё аканьне, зн. пераход ненацісьненых *о* (спачатнага і з *ъ*), *е* (спачатнага і з *ь*) а *ě* ў *а*. Пад уплывам Шахматава адлі Дурнава (Дурново) да нядаўна агульна ўважалі, першае, што аканьне ўзьнікла незалежна ад субстрату, але з прычыны рэдук-

---

[1] Назоў «Беларусы» — чужы народу, каторага аканьне будзе разгледжана ў гэтым артыкуле. Праўдзівы назоў, тарнаваны да народу гэтага, якім ён вылучна зваўся ад 13-га да палавіцы 19-га стагодзьдзя, а ў ладнай меры й пасьлей, ё «Літва», «Ліцьвіны» або (у шмат меншай меры) «Вялікалітва», «Вялікаліцьвіны». І цяпер народныя масы на вялікім прасьцязе краю (Севершчына, Усходняе Палесьсе, у меншай меры Палесьсе Паўднявое, — разам звыш 2-х мілёнаў люднасьці) завуць сябе Ліцьвінамі.

Урынаючы назоў «беларусы» народу, якога ўперад увесь час самы звалі «Літвою», «Літвінамі», Расійцы пачалі тарнаваць назоў «Литва», «литовцы» (не «литвины») да Жмудзі. Гэтыя, подле зычэньня расійскага, па якімсь часе пераняли назоў «Літва», а дагэнуль зваліся Жмуйдзяй, Жмуйдзінамі як у значаньню вужшым, пляменным, так і ў шыршым, абыймаючым і Аўкштотцаў, агульна-нацыянальным. Каб пазьбегчы памяшаньня, ужываем хормы «Вялікалітва», «Вялікаліцьвіны», дарма што яна ня была такою штачаснаю, як хорма «Літва», «Ліцьвіны».

[2] В. В. Седов, К происхождению белорусов (проблема балтского субстрата в этногенезе белорусов), *Советская этнография*, 1967, №2.

цы ненацісьненых самагукаў; другое, што спачатна яно было дысымілячнае і, трэйцяе, што прышло звонку на дагэтуль захаваны прасьцяг мовы вялікалітоўскае. Але ван Вэйк[3] а Шэрах[4] сусім пераконуюча давялі, што спачатным тыпам аканьня быў тып недысымілячны на ўсім яго прасьцягу. Адлі Шэрах (б. 28-34 а 43) давёў, што аканьне паўстала перад развоям дынамічнага націску незалежна ад рэдукцы ненацісьненых самагукаў. Ён жа (б. 35-39) зьясьніў, што гэтая рыса ня была прынесена звонку на цяперашні прасьцяг мовы вялікалітоўскае. Ён пераканаўшыся, што аканьне, паўстаўшы ў яго сярэдзіне, адгэтуль пашырылася на ўсі бакі.[5]

Дальшыя вызукаваньні аканьня, ведзеныя ў зьвязку з балцка-славянскаю самагуковаю сыстэмаю, былі пачаты Ваяном[6] і праведзеныя да канца Шэрахам (б. 41-47). Гэты скарыстаў таксама із вынікаў археолёґічных дасьледаваньняў праз паходжаньне Вялікаліцьвіноў. У выніку было даведзена, што аканьне паўстала пад дзеяньням балцкага моўнага субстрату. У балцка-славянскім пэрыядзе былі гэткія самагукі: *ă, ā, ū, ī (ē>ě)*. З часам у мове праславянскай *ă>o, ā>a,* а ў прабалцкай *ă>a, ā>o (uo)*. Перад тым чымся ў мове Славян *ă>o*, вялікалітоўская часьць іх зьлілася з часьцю Балтаў, у каторых *ă>a*. Гэта зьдзеяла, што і ў мове балцка-славянскае сынтэзы, у мове вялікалітоўскай засталося *a* не перайшоўшы ў *o*. Што да *e>'a*, дык, судзячы подле сучаснае вымовы жмудзкае, каторай *e* вымаўляецца вельмі адкрыта, як *a*,[7] такая вымова была ў вялікалітоўскай часьці Балтаў. Затым таксама *e>'a*. Пры гэтым роля славянскага націску была ў тым, што аканьне паўстала толькі ў складох ненацісьненых.

---

[3] N. van Wijk, Zur Entwicklungsgeschichte des Akanje und Jakanje, *Slavia* XIII, 4. 1934/35, S. 634, 659, 670.

[4] Jury Šerech, Problems in the Formation of Belorussian, p. 28—34, *Supplement to Word*, vol. 9, New York, 1953, далей цытуецца як Шэрах.

[5] Можна зацеміць, што як аканьне паўстала пад дзеяньням моўнага субстрату балцкага, дык яно магло ўзьнікці, болей-меней адначасна, усюдых, ідзе быў гэты субстрат, зн. на ўсёй этнічнай тэрыторы вялікалітоўскай. Цэнтр пашырэньня ё канечны да вытварэньня мовы літаратурнае. Што ж датыкаецца да вытварэньня або апрычэньня мовы народнае, дык аднолькавыя ўмовы на розных мясцох данага прасьцягу прывядуць памаему да аднолькавых рэзультатаў; а малыя мясцовыя розьніцы ў умовах адаб'юцца ў гаворах данае мовы.

[6] A. Vaillant, *Grammaire comparée des langues slaves*, I, Paris 1950, p. 107, 109, 234.

[7] Іншыя (Ваян 109, Шэрах 15) кажуць, што жмудзкае («літоўскае») *e* вымаўляецца «вельмі адкрыта, блізу як *'a*». Але, прынамся акустычна, яно — поўнае *a*. Гэтак, *Lenkas* «Паляк» вымаўляюць *Л'áнкас*, *Markevičius* — *Марк'áвіч'ус*.

Можна дапушчаць, што спачатна і ў складох націсьненых было аканьне, прынамся побач із *о*, што толькі з часам вытварыўся стан цяперашні.[8]

Такое адкрыцьце паўстаньня аканьня было вялікім і заразом да ґеніяльнасьці простым.

Зь менаванага відаць, што аканьне паўстала ў пару прагісторычную (Шэрах, б. 46), як яшчэ *а* ня было перайшоўшы ў *о* ў мове праславянскай.

Адкрыцьце Шэрахава зактывізавала проблему паўстаньня аканьня, і ў 1-ай палавіцы 60-х год зьявіўся сьцяг пісаняў, адумысьля прысьвячаных гэтай проблеме. Былі імі:

В. И. Георгиев: Русское аканье и его отношение к системе фонем праславянского языка, *Вопросы языкознания,* 1963, II, б. 20—29;

В. Г. Руделев: К фонологической интерпретации русского аканья, там жа, 1963, II, б. 30—38;

П. С. Кузнецов: К вопросу о происхождении аканья, там жа, 1964, I, б. 30—41;

В. В. Колесов: О некоторых особенностях фонологической модели, развивающей аканье, там жа, 1964, IV, б. 66—79;

Я. Риглер: К проблеме аканья, там жа, 1964, V, б. 36—45;

В. И. Лыткин: Еще к вопросу о происхождении русского аканья, там жа, 1965, II, б. 44—52;

Г. А. Хабургаев: О фонологических условиях развития русского аканья, там жа, 1965, VI, б. 55—63; і інш.

Апрача таго, на тую ж тэму асобна вышла праца В. Георгиева *Вокалната система в развоя на славянските езици,* София 1964.

Адныя аўтары даводзяць, што аканьне было спачатным. Апрача вышменаваных А. Ваяна а Ю. Шэраха, за такое мае яго таксама Георгіеў (Георгиев). Аўтары іншых працаў уважаюць аканьне за паўторнае («вторичное»).

Што да даўніні аканьня, дык за прагісторычнае яго прызнаюць А. Шахматаў, Н. Дурнаво, Ф. Філін, А. Ваян, Ю. Шэрах а В. Георгіеў.

Кузьняцоў у менаванай пісані супроці даўніні аканьня высувае цьверджаньне, што яно позна праяўляецца ў памятках. Быццам «Заходня-рускія, значыцца беларускія, памяткі ня маюць показаў на аканьне да XV стг.» (б. 34). Прымеж таго такія показі ё ў смаленскім лісьце-змове 1229 г., найстаршай із захава-

---

[8] У найстаршых памятках пскоўскіх ё мяшаньне *е-я* націсьненых. Ня вылучана, што гэта астачы аканьня пад націскам. (Пр. Шэрах, 45).

ных памятцы вялікалітоўскай, пісанай народнай моваю. Г е о р г і е ў паказаў, што аканьне ў гэтай памятцы адбілася ў пераданьню ненацісьненага *а*<о пераз ъ, на што ё шмат прыкладаў такіх, як *на въдѣ, хълопу.*[9] Там жа ён зьясьніў прычыну такога пераданьня.

У другой памятцы вялікалітоўскай, у лісьце 1271—1280 рыскае рады да віцебскага князя, аканьне адбілася ў напісаньнях — *жо* ў ненацісьненым канцу слова.[10] У лісьце гэтым няма ніякіх царкоўна-славінізмаў. Пісаў яго Вялікаліцьвін із прасьцягу паўночнага нарэчча вялікалітоўскага. Відаць гэта із звычайнае мены *ч* на *ц* і наадварот, а таксама зь пераходу *ѣ*>*е* (на месцу спачатнага, зн. прасл., *ѣ* ё *е* 75 разоў пад націскам і 25 разоў не пад націскам; а *ѣ* на месцу прасл. *ѣ* ё 12 разоў пад націскам і 8 разоў не пад націскам).

Прьвяду зь менаванага лісту ўсе, што датыкаецца аканьня, скарачаючы толькі колькасьць прыкладаў.

Унутры слова на месцу нац. *е* па сугуках шыпячых перад цьвярдымі заўсёды ё *о: шол* 22, 42 і інш.[11]

Унутры слова не пад націскам адзін раз лучыла *о (хочом* 84) і адзін раз *е* (*можемъ* 85); *четвертыи* 8 (стрэлася аднойчы) сюды не падыходзе, бо *т* перад мяккім *в* мусіла вымаўляцца як *ц* мяккое (пр. цяперашняе *чацьверты).*

Вельма цікава *о* на месцу этым. *е* на канцу слова. Тут маем гэткія прылучаі:

1. У participium: а) *е* трэйчы; б) *о: емъшо* 8.

2. Частка *же:* а) з *е* 4 разы; б) з *о* 9 разоў (*немчы жо то оуведавше* 20, *попустилъ жо оу розбоиникове клети. волкы. жо овчины* 29-30, *дали ему скорлата портъ жо чаторъ* 57 і інш.).

3. Злучнік *аже:* а) з *е* сем разоў; б) з *о* трэйчы *(то уведавше ажо к тобе оутеклъ* 20, *оуслышалъ. ажо ты не велѣлъ* 41, *сам ведаешь. ажо свое кр(е)стное челование забылъ* 50).

4. Ліст пісаны да віцебскага князя, затым слова *князь* сустракаецца часта, асабліва часта ў склоне гукальным (vocativus), у

---

[9] Вокалната, 71. Гл. таксама ліст ягоны да рэдакцы ў ж. *«Вопросы языкознания»,* 1964, IV, б. 151, у каторым, апрача гэтага, прыводзе з таго ж лісту *приказана* (зам. *приказано).*

[10] Ян С т а н к е в і ч: Мова лісту рыскае рады 1271—1280 г., *Запісы Беларускага Навуковага Т-ва,* Вільня 1938, I, б. 40—50. У гэтым жа нумару *«Запісаў»* Баляслаў Б р э ж г а ў варт. «Жалаба рыскае рады канца XIII стг.», б. 35—40, выдрукаваў цэлы гэты ліст разам із яго факсыміле (паменшаным). Зробленую Брэжгам копію лісту я праверыў подле фотоґрафы орыґіналу.

[11] Лікі паказуюць радкі орыґіналу лісту.

каторым стрэлася 37 разоў і заўсёды з *о* на концу (*княжо* 11, 12, 16 і г. д.).

5. *еще* лучыла ў лісьце трэйчы і заўсёды з *е* на канцу.

Прыгледзіўшыся да прыведзеных 5-х прылучаёў, наўперад мусім сканстатаваць:

а) калі тое самае слова ў вадных прыкладах ужыта ў лісьце з *о*, а ў другіх з *е* на канцу, дык яно не магло вымаўляцца з *е* на канцу. Прыклады з *е* побач із *о* лёгка зьясьніць традыцаю ў правапісе — пісаньням *е* ў тэкстах царкоўна-славянскіх. У гэтых (апошніх) тэкстах *же* адно або разам із іншымі злучамі сустракалася часта, але *князь* рэдка, а ў склоне гукальным, хіба, ніколі ня лучыла; наадварот частым было ў жывой мове вялікалітоўскай. Вось чаму ў першых трох прылучаёх ё то *е*, то *о*, а ў 4ым толькі *о* (*княжо*).

б) у першых 4-х прылучаёх канцавое этым. *е* было ненацісьненае,[12] а ў прылучаю 5-ым (*еще*) націск на канцавым *е*.

в) вышэй мы бачылі, што націсьненае *е* ўнутры слова па мяккіх сугуках перад цьвярдымі ня толькі перайшло ў *о*, але па шыпячых і заўсёды пісалі пераз *о*. Зн., калі канцавое націсьненае *е* ў *еще* пішацца пераз *е*, дык яно й вымаўлялася як *е*. Праўда, цяперака гэтае слова ў паўночным нарэччу вялікалітоўскім вымаўляюць із *о* (*яшчо*), але *о* тут пазьнейшае, у XIII стг. яго ня было, як няма цяпер у бальшыні нарэчча паўднёва-заходняга, пачынаючы каля сярэдзіны дыялекту сярэдняга. А ня было затым што ў мове вялікалітоўскай канцавое *е* не пераходзе ў *о* (*ё*). Цяперашнія дыялектныя хормы з *о* (*ё*)<*е* (*ужо, яшчо, маё, сядзіцё, жыцьцё* і пад.) паўсталі пасьлей на грунце аканьня з прычыны радаўкаваньня ненац. *а* з націсьненым *о* (*ё*) (*вада, вясна, сяло, памяло — воды, вёсны, сёлы, памёлы*). Яшчэ ў Аль Кітабе 16—17 стг. ані няма такіх дзеяслоўных хормаў, як *сядзіцё, нясіцё*, замест каторых заўсёды *сядзіце, нясіце* і інш., а побач із хормамі *маё, тваё, чыё, усё* ё яшчэ *мае, твае, свае, чые* (назоўны скл. адз. ліку).[13]

---

[12] Што да *же, аже й ажебы*, дык ненацісьненасьць у іх *е* відаць хоць бы з таго, што яно адпадае; хорму *ажбы* знаходзім ужо ў Смаленскай праўдзе 1229 г.

[13] J. Stankievič: *Mova rukapisu Al Kitab*, New York 1952, бб. 19—22; Ю. Ф. Мацкевіч: *Марфалогія дзеяслова ў беларускай мове*, Мінск 1959, б. 159—70, разглядае на бб. 159—170 канчатак 2-ой ас. мн. л. Найперш яна падаець, што «Обнорский (*Очерки по морфологии русского глагола*, бб. 146—147) уважае ў гаворах Усходня-Ноўгарадзкай, Валагодзка-Вяцкай, Уладзімірска-Волскай краінаў хормы на *-тё* 2 ас. мн. л. за другасную зьяву, што разьвілася на базе гаворак, у якіх наагул пераважае вымаўленьне *о* на месцу спрадвечнага *е* ў *палажэньню перад і па націску*»

Як у гэтым лісьце, таксама ў Смаленскай укладной XIV стг. (А. И. Соболевский: Смоленско-полоцкий говор в XIII—XV вв., РФВ, 15, 1886, б. 14) *ажо* (двойчы) толькі з *о*, але побач *сельце.*

А калі так, дык прыведзеныя прыклады із заўсёдным або часткавым *о* не вымаўляліся ані з *о* на канцу, бо канцавое *е* ў *о*

---

(падчыркненьне мае — Я. С.). Адлі Мацкевіч кажа: «Мы мяркуем, што падобным шляхам тып хормаў на *-цё* разьвіўся і ў паўночна-беларускіх гаворках, а іменна пад уплывам пасьлядоўнай адмены («замены») *е* пераз *о* ня толькі ў вадпаведных фонэтычных умовах, але й наагул у вумовах пасьлядоўнай марфалёґізацы гэтае зьявы ў розных граматычных хормах». Няма ведама, што спадарычна Мацкевічышка (ці мо' сп-ня М-чыха?) разумее пад «паўночна-беларускімі» гаворамі. Належыла б пад імі разумець гаворы паўночнага (званага таксама паўночна-ўсходнім) нарэчча вялікалітоўскага. Рыса ж гэтая цяперака ё ня толькі ў гэтым нарэччу, але і ў каля палавіцы нарэчча паўднявога (зв. таксама паўднёва-заходнім); даўней жа яе нійдзе ня было. Што ж да «пасьлядоўнае адмены» і такое самае «марфалёґізацы», дык тут паважаная аўтарка рэзультат абарачае ў прычыну. Перад рэзультатам жа было радаўкаваньне нац. *о* зь ненац. *а: нагá, сахá, лазá* і г. д. — *нóгі, сóхі, лóзы; вяснá, сялó, вяслó — вёсны, сёлы, вёслы; сталы́, валы́, калы́ — стол, вол, кол.* Вось, з прычыны гэтага радаўкаваньня й паўстала *-цё (бярыцё, глядзіцё* з ранейшых *бярыцé, глядзіцé),* а таксама наагул *о, 'о* (ё) з канцавога нац. *е (ужó, шумаўё, круччó, быцьцё).*

Калі ж з прычынаў фонэтычных нац. *е* не пераходзе ў *о,* дык было (і ё) радаўкаваньне *е* з *'а: зéляна, вéсяла — зялёны, вясёлы.* Як бачым, і ў падобных да гэтых прыкладах ё радаўкаваньне *'а(я)* з *'о(ё).* Гэтая перавага радаўкаваньня *а-о, 'а-'о* над радаўкаваньням *е* — *'а(я)* й была прычынаю, што канцовае нац. *е* было адменена на *-о(ё),* а не на *-а(я).*

Менаванае радаўкаваньне *а* з *о* прычыніла й тое, што на'т у васновах дзеясловаў *а* бывае адменена на *о (трасý, запрагý — трос, запрóг; знайдý, зайдý — знóйдзеш, зóйдзеш, сóдзіш* і інш.). і тут таксама, калі з прычыны фонэтычнае нац. *е* не пераходзе ў *о,* дык бывае радаўкаваньне нац. *е* зь ненацісьненым *'а (глядзéць-глéдзячы, разглéдзеў).*

Напярэк таму, што ё ў менаваных гаворах расійскіх, у мове вялікалітоўскай няма *о* на месцу спачатнага *е* перад і па націску; ё ў такім палажэньню *а* а ня *о.* У гэных гаворах рас. пашыранае *о* стала прычынаю адмены на *о* канцавога *е* ў 2 ас. мн. л. Ув Абнорскага прычына й рэзультат ё на сваім месцу.

А. Шахматоў *Курс истории русского языка,* б. 128), каторага цытуе Мацкевіч-ыха, даўно сказаў, што «праўдападобна *ó* замест *é* ў канчатку 2 ас. мн. л. ё пры *а* ў менаваных хормах у выніку агульнага радаўкаваньня *о* з *а*». Я ж,назіраючы асаблівасьці мовы влл., цьверджу гэта ўзглядам кажнага канцавога нац. *е,* і гэта пацьвярджаецца фактамі мовы ў яе гісторы.

Разам із такімі старымі хормамі часьці паўднявога нарэчча, як *зямлéю, днем, пнем, агнéм,* Мацкевічыха прыводзе *далéка* а *бéрда.* Прымеж таго *далéка* ё новаю аналёґічнаю хормаю подле *далéкі,* таксама як на поўнач ад гэтых хормаў *далёкі* паўстала пад уплывам *далёка.* Што ж да *бéрда,* то такія хормы болей-меней ё ўсюдых у мове влл., бо іх *-ер-* ё з *р* санантнага.

не пераходзіла, ані з *е*, бо адначасна пісалася з *о*. Мусілі яны вымаўляцца з *а* на канцу. Калі па шыпячых перад цьвярдымі на месцу ненацісьненага *е* ўнутры слова знаходзім у разгляданым лісьце адзін раз *е*, а другі *о*, дык гэта ізноў з прычыны аканьня, бо калі *а* вымаўлялася, але ня пісалася, дык замест яго аднолькава можна было напісаць як *е*, так і *о*. Ведама, што ня толькі па зацьвярдзелых *ж, ч, ш, ц* ненацісьненае *е* пераходзіла ў *а*, але й па мяккіх; па мяккіх, адылі, ня было знаку да яго перададаньня.

Фактамі, значыцца, разгляданага лісту зьбіта цьверджаньне Сабалеўскага, каторы, бачачы ў памятках вялікалітоўскіх па шыпячых *о* замест *е*, зрабіў у варт. «К истории русских акающих говоров», *РФВ*, 12, 1884 г., б. 106—08, вывад, што ненацісьненае *е* сьпярша перайшло ў *о* а потым *о* ў *а*, бо — падчыркую — канцавое *е* не пераходзіла ў *о*.[14]

Як у менаваным лісьце, так адбіваецца аканьне і ў памятках разанскіх. Будде (Рязань) піша: «... Найстаршы сьлед (аканьня) мы знайшлі ў XIV стг. ў лісьце (змоўным) в. кн. разанскага Альга Йвановіча зь в. кн. Зьмітрам Івановічам 1381 г., ідзе чытаем: «А пошлины ... съ пѣшоходовъ два алтына» (Собрание государственных грамот и договоров, I, М. 1813, нр. 32). Пр. крышку ніжэй: «а с пѣшехода мыта нѣтъ». Відавочна, што слова «пѣшоходовъ» магло адзяржаць такое напісаньне, затым што яно вымаўлялася «пѣшаходовъ». Падобныя прыклады пабачым і ніжэй» (б. 12).

Прасл. пара ўзьніку аканьня відаць і з таго, што протэтычны сугук *в* ё перад *о*, але няма яго перад *а* зь ненац. *о*. Перад *а* з *о*, як і перад *а* этымолёґічным, протэза *в* ё па пярэднім прыймені *ў, у*, (з *в* а *у*). Зь менаванага відаць, што аканьне паўстала перад зьяўленьням протэзы *в* перад *о*, бо накш протэтычнае *в* было б і перад *а*<*о*.[15] Да таго самага вываду прышоў Н. Шило ў варт. «Явище протези в слов'янських мовах», *Вопросы славянского языкознания*, 2, Львов, 1949, б. 246. Шэрах (б. 41) адылі, апіраючыся на прыклады, прыведзеныя Карскім, *Бѣлоруссы*, II, 1, 1908 г., б. 426 (*войцу, вокном, ни водин, вокошко, вомлевацъ*), зацямляе, што ўсёж такі ё протэза *в* перад *а* з *о*. Наўперад зацемлю, што ў *ні водзін* ё націск на *о*, а ў *вокном* — на *во-*, калі гэта лік множ.; *войцу* запісана ў Вільні, а там гэтак, бывае, ґукаюць

---

[14] Дазволіў я сабе ўчыніць вялікі выпіс із менаванага артыкулу, бо я пераканаўшыся, што на Захадзе няма тому «Запісаў Беларускага Нав. Т-ва», у каторым ён выдрукуваны.

[15] Я. Станкевіч: Прыстаўное *в* ў мове беларускай, *Родная Мова*, у Вільні, 1930, 3—4, б. 66 а н. асабліва 74.

папольску некаторыя мяшчане, дык тут таксама *о* пад націскам. Абмылы ў Карскага і падобныя ў іншых паўстаюць із таго, што слова бывае вынята з контэксту. Прыкладам, кажуць *азярод*, але — *кладзі снапы ў вазярод*. Выняты з гэтае проказі *вазярод* адзяржыць *в-* перад *а* з *о*. Гэтак хіба зьявілася *вомлявацъ*. Другою прычынаю ё, што запісаваньнік можа якога слова не пачуць добра і, калі ён ня знае мовы, запіша яго абмыльна. З гэтае прычыны можа быць запісана *в* і перад рас. *окошко* (влл. *аконца*).[15a]

Як было адцемлена, ван Вэйк а Шэрах супоўна давялі, што аканьне паўстала як недысымілячнае (гл. б. 392). І толькі пасьлей на прасьцязе вялікалітоўскага плямені Крывічоў яно дысымілявалася. Не зважаючы на гэта, усі вышменаваныя аўтары, з выняткам Георгіева, разглядаюць яго як спачатна дысымілячнае. Таксама, як паказана вышэй (б. 392), Шэрах давёў, што аканьне паўстала незалежна ад рэдукцы ненацісьненых самагукаў і пе-

---

[15a] Л. А. Булаховский: Восточнославянские языки как источник реконструкции общеславянской акцентологической системы, *Известия Академии наук СССР*, т. 5, вып. 6, с. 473. Москва 1946, кажа: «і літаратурная расійская, і яшчэ пасьледаўней, яе гаворы адбілі гэту ўсхоную (акутную) інтонацу бытае караціні гуку *о* ў пачаткавым націсьненым складзе, каторы адзяржаў перад гэтым *о* протэтычнае *в* з *у* нескладовага (*во́семь, во́тчина*). Ё важныя поды («основания») думаць, што бытая розьніца інтонацаў самагуку *о* выявілася таксама ў розьніцы рэфлексаў перад націсьненым *о* ў паўночна-ўсходніх гаворах із так званым дысымілячным аканьням мовы беларускае». Булахоўскі не завець гэных «важных подаў». Наўперад надабе зацеміць, што ў паўночным або, накш, паўночна-ўсходнім нарэччу мовы влл. ня было дыфтонґізаванага *о* пад нова-ўсхонаю інтонацаю ані дыфтонґаў наагул. Адлі даводзіцца ў колькіх словах паўтарыць сказанае імною ў менаваным арт. ў *Роднай мове*. У вусей мове влл. ё протэтычнае *в* заўсёды перад *о*, перад *у*>*ǫ* як нац., так і ненац. (*ву́тлы, вужа́ка, вудзіць, вуго́л, вуга́ль*), перад нац. *у* (*ву́ха, ву́чаньнік*). Прот. *в* ё перад *у* ненацісьненым тады, калі гэтае не пераходзе ў *ў*: *вучыцель*, але *учынак*, бо па самагуку пярэдняга слова ё *ўчынак* (дабры *ўчынак*). Як ё перад *а*≦*о*, і перад ненац. *у* ё прот. *в* па прыймені *ў, у* (з *в* а *у*): *уве́сь, усяго́, на ўсім*, але *у вусім, убо́ства, да ўбо́ства*, але *у вубо́стве*.

Зь іншых моваў слав. ё прот. *в* перад *у* у вышнялужыцкай (vučić, vucho), палабскай (veul), кашубскай (vud, vukleja). У мове пол. ё перад ą (wąs węzeł).

Зь менаванага відаць, што прот. *в* перад *о, у* (спачатным і з **ǫ*) мовы влл. таго ж паходжаньня, што прот. *в* перад *ы, ъ* (vyknǫ, vъzьmǫ) мовы прасл. Таксама ясна зь менаванага, што ў мове влл. як і ў іншых менаваных мовах слав., прот. *в* перад пачатнымі *о, вялікім юсам, у* паўстала дыялектычна ў пару прасл. Паўсталае ў проказным злучэньню (sandhi) па *у, ъ* (**ŭ, *ĭ*) пярэдняга слова *в* загульнілася, стала ўжывацца перад кажнымі пачатнымі менаванымі самагукамі. Адгэтуль пасьлей *в* аналёґічна пранікла да нутра слова перад *о, у*, калі імі пачынаўся склад (*аднаво́р, піво́ня, Лаво́н, паву́, наву́ка*).

рад дынамічным націскам. Георгіеў (Вокалната..., б. 65) даець довады супроці таго, быццам аканьне паўстала як рэзультат рэдукцы ненацісьненых самагукаў; ён паказуе, што рэдукца ненацісьненых самагукаў «прыраўнальна позная зьява». Ф. П. Филин («Очерки истории русского языка до XVI ст., *Ученые записки* [ЛГПИ им. А. Герцена], 27, Кафедра рус. языка, Ленинград, 1940, бб. 46—56, 87) зварачае ўвагу, што аканьне не заўсёды зыходзіцца з колькаснаю рэдукцаю самагукаў у ненац. складох. Ён жа («К вопросу о происхождении аканья», *Диалектологический сборник*, II, Вологда, 1941, б. 158), цьвердзе, што рэдукца ненацісьненых самагукаў — «зьява пазьнейшая за аканьня». Рыглер (б. 41) прызнаець за прычыну паўстаньня аканьня рэдукцу ненац. самагукаў, заразом, адылі, сьцьвярджае, што «Простага зьвязку меж аканьня і рэдукцы іншых самагукаў у мове славінскай не назіраюць. У некаторых дыялектах мовы славінскае ё вельмі разьвіўшыся рэдукца самагукаў, але аканьня няма». Кіпарскі зацямляе: «Найслабшая бодка тая, што нельга азначыць спачатнае бодкі рэдукцы самагукаў».[16]

Што ж да дынамічнага націску, дык «у мове славінскай аканьне не зьвязана із стратаю музыкальнага націску; яно часьцей сустракаецца ў дыялектах із націскам эксьпіраторным» (Рыглер, б. 45).

Але дарма. Ня зьбіваючы довадаў праз паўстаньне аканьня незалежна ад рэдукцы ненац. самагукаў, паўтараюць Шахматаўскую гіпотэзу праз рэдукцу Рудзелеў (б. 32), Кузьняцоў (б. 33—34, 39), Колесаў (б. 73), Лыткін (б. 45), Хабургаеў (б. 60). Прыкладам: «Шмат якія лінґвістыя разглядаюць аканьне (у шырокім сэнсе) як рэзультат рэдукцы самагукаў у ненац. складох» (Кузьняцоў, б. 33); і што «подле ўстаноўленага гляньва рэдукца самагукаў у ненац. складох ё звычайна ў мовах із моцным дынамічным націскам» (Кузьняцоў, б. 34). І далей там жа: «Калі выйдзем із такога гляньва, подле каторага рэдукца самагукаў зьвязана з моцным дынамічным націскам, а аканьне ё рэзультатам рэдукцы, мы маем права дапусьціць у гаворах прасьцягу спачатнага аканьня націск менаванага тыпу». Хабургаеў: «Калі ўніфікаца самагуковых фонэмаў ненац. складоў, супраціпастаноўленых дыфэрэнцаванай сыстэме націсьненых самагукаў, запраўды зьвязана зь пераходам да дынамічнага націску, пры каторым ня толькі трацяцца розьніцы меж ненац. самагукаў подле даўжыні, але й дзеецца выразьлівае вылучэньне нац. складу подле трывалкосьці («длительности») а інтэнсыўнасьці, дык фонэтыч-

---

16 V. Kiparsky, *Russische historische Grammatik*, I, Heidelberg, 1963, S. 140.

ная залежнасьць самагуку першае стані ад якасьці націсьненага складу ў пачатным пэрыядзе развою аканьня мела стаць непазьбежнай. Гэтак магла нацеміцца сыстэма дысымілячнага або асымілячна-дысымілячнага аканьня-яканьня» (59). А факты гэткія: «Цікава, адылі, што ў вяціцкіх («южновеликорусских») памятках першае палавіцы XVII стг. ані *і*, ані *ы* як адбіцьце аканьня не сустракаюцца; у васобнасьці па мяккіх сугуках знаходзім *а* (на пісьме *я*) а *е* (зн. *пятров — взела*)» (там жа, б. 63). Там жа ў вынасцы Х а б у р г а е ў дадаець: «У вялізарнай колькасьці курскіх памяткаў імне стрэліся толькі *я* і *е* (гл. Г. А. Х а б у р г а е в: *Формы склонения имен существительных в курских памятниках деловой письменности первой половины XVII в.*, Автореферат канд. диссерт., М. 1956, с. 6); вялікая колькасьць прыкладаў з *е*, на месцу *я*, прыведзена ў матар'ялах С. К а т к о в а (*Южновеликорусское наречие в XVII ст.*, с. 64—65): сярод 85-ёх прыкладаў, па мяккіх сугуках аканьне адбіваючых, адно 9 із напісаньням *и* ды два зь іх — з выданьняў XIX стг. (гл. там жа, б. 66—69)».Ясна, што тут аканьне-яканьне — недысымілячнае. *е* на месцу ненац. *я* ё рысаю правапіснаю, паўсталаю, каб усьцерагчыся *я* зь ненац. *е*. Гэта ё звычайным у памятках Вялікага Княства Літоўскага, тагачасных, ранейшых і пасьлейшых.

Рудзелеў (б. 32), Кузьняцоў (б. 36) а Колесаў (б. 76) уважаюць, што аканьне паўстала па шчэзьненьню слабых ераў, дарма што гэтаму станаўко пярэчаць, як довады аўтараў непрызнаючых рэдукцы дзеля паўстаньня аканьня, так і тое, што ў мове влл. протэтычнае *в-* ё перад *о-*, але няма яго перад *а-* з *о-* (гл. вышэй б. 6). К і п а р с к і, адылі, кажа: шчэзьненьне *ъ, ь* не магло ўчыніць ніякага ўплыву на паўстаньне аканьня (мен. праца, б. 139).

Рудзелеў сусім тарнуецца да гіпотэзы Шахматавае. Праз гэта К у з ь н я ц о ў зацеміў: «В. Г. Рудзелеў, неаднойчы падчыркуючы, што фонэтычная інтэрпрэтаца аканьня й паўстаньня яго дазваляе пацьвердзіць правільнасьць шмат якіх тэзаў Шахматавых, не адзержуецца на адцемленай ужо ў лінґвістычнай літаратуры нутраное сьпярэчнасьці ў гіпотэзе Шахматавай . . . нават у тэй самай працы». Кузьняцоў, там жа, прыводзе на гэта факты а довады (б. 32). А. Х а б у р г а е ў гэтак характарызуе: (Рудзелеў) «падаець фанолёґічную інтэрпрэтацу ня рускага аканьня, а ведамае Шахматаўскае гіпотэзы, падбіваючы («подгоняя») пад яе фонолёґічную будоўлю» (б. 55, вынаска).

Нельга назваць удалай спробу К о л е с а в а, узалежніць паўстаньня аканьня ад вольнага, рухомага націску (б. 68—70). Падобная спроба Х а б у р г а е в а, каторы сілуецца зьвязаць аканьне з быццам існуючай тэндэнцаю да ўнікацы ненац. самагукаў (б. 56—60).

Кузьняцоў (б. 30) зацеміў праз разгляданыя пісані Георгіева а Рудзелева, што яны «ня бліжаць да разьвязаньня праблемы, выклікаючы кажная сьцяг важных перачэньняў». Зь ім згадзіўся Лыткін (б. 45), дадаўшы сюды Кузьняцова, Колесава, Рыглера і «др.» Не дабліжыла да разьвязаньня проблемы таксама пісань Хабургаева ані, як пабачым, Лыткінава. Але, як будзе відаць далавах, зь менаванага ліку надабе вылучыць пісань а кнігу Георгіевы.

Здаецца ясна, што кажную зьяву надабе пачынаць разглядаць із яе хормы найляпей захавалае. Аканьне ж найляпей захавалася на прасьцязе бытага гаспадарства вялікалітоўскага, якім было Вял. Кн. Літоўскае.[17] Яно было ў ім, казаў тый, у сваей дамове, ніякая мова на яго тут ня ўплывала, і стыкалася яно тут із окаючай (укр.) моваю адно на захад ад Дняпра, дый то толькі да 1569 г., калі ўкраінскія землі Вялікалітвы былі забраныя Польшчаю. Праўда, Смаленшчына а Севершчына былі адабраны ў 1667 г.,[17a] Віцебшчына а Магілеўшчына заставаліся ў сваім гаспадарстве да 1772, а засталыя землі вялікалітоўскія — да 1795 г.

Двум нарэччам мовы влл. адпавядаюць два тыпы аканьня. У паўночным, крывіцкім нарэччу ё аканьне дысымілячнае.[18] У

---

[17] Ня толькі гісторыкі, але й мавaведы прызнаюць Вял. Кн. Літоўскае за гаспадарства вялікалітоўскае. Прыкладам, Н. Дурново піша: «паўднёва-заходняя часьць Калускае губ. даўгі час уходзіла ў склад беларускага Літоўскага, а не велікарускага Маскоўскага гаспадарства». (Дурново, Карта, б. 24).

[17a] *Часьць Севершчыны,* пп. Сураскі, Почапскі а Імглінскі б. Чарнігаўскае губ., належачая да Вял. Кн. Ліотўскага часьць Куршчыны і Трубчэўскі а Бранскі паветы б. Арлоўскае губ. былі прылучаны да Маскоўшчыны, а засталая паўднявая часьць — да украінскае Гатманшчыны.

[18] Цяпер у васнэй часьці дыялекту пскоўскага ё аканьне недысымілячнае; у другой часьці *а* толькі ў першым складзе перад націскам, а ў засталых складох — рэдукаваны самагук або *ъ* (Дурново, Соколов, 37). У мінуласьці, адылі, у ўсім дыялекце пскоўскім мусіла быць аканьне дысымілячнае, бо, з выняткам долі *дл, тл,* усі іншыя важнейшыя рысы аднолькавыя ў ім із полацка-смаленскай часьцяй паўночнага нарэчча влл. Аканьне ў мове влл. паўстала як недысымілячнае і адно пасьлей у нарэччу паўночным, крывіцкім яно дысымілявалася. Дык ці, перайшоўшы зь недысымілячнага ў дысымілячнае, потым ізноў можа абарачацца ў недысымілячнае? Орґанічна ня можа. Але неорґанічна, пад чужым уплывам усе можа стацца. Праз гэта можа сьветчыць чэзьненьне на нашых ачох дысымілячнасьці ў ваканьню Віцебшчыны (гл. П. Кузьмин: Материалы для изучения говора Велижского у., Изв. ОРЯС, III, 1, б. 179). У захавалай яшчэ мове вялікалітоўскай пав. Ржэўскага «У вымове моладзежы і бывалых аканьне тыпу маскоўскага, у гавары ж старых і асабліва старых жанок, аканьне мае шмат архаічных рысаў — у вымове іхнай аканьне дысымілячнага тыпу» (Г. Гринкова: Очерки по рус. диалектологии,

цэлым паўднявым нарэччу, у дыялектах усіх іншых плямёнаў вялікалітоўскіх, ад граніцы з моваю польскаю на захадзе аж да р. Цны (усходняе) аканьне недысымілячнае.[19]

Недысымілячнае аканьне тэрыторы б. Вял. Кн. Літоўскага, начай кажучы, прасьцягу, што на паўднявы захад ад прасьцягу аканьня дысымілячнага, дзеліцца на 2 часьці: на аканьне дыялекту сярэдняга з блізкімі да яго гаворамі віленска-ашмянскімі і на аканьне паўднёва-заходняга дыялекту зь яго гаворамі палескімі.

Дыялект сярэдні (з гляньва на ўсю мову влл., а не на прасьцяг недысымілячнага аканьня) цягнецца даўгім і шырокім чараслом ад Прыдруйска ля р. Дзьвіны а Гадуцішак ля аўкштоцка-жмудзкае граніцы на поўначы да р. Дзясны на паўдні, а ўшыркі ад Бярэзіны (нёманаўскае) у бодцы супроці м. Валожына аж да Магілёва ля Дняпра. Аканьне яго завуць вялікім («сильным», «strong»). У ім няма ані *о*, ані *е* ў складох ненацісьненых.

Ня сусім аканьне аднолькавае на ўсім прасьцязе гэтага дыялекту. У паветах Дрысенскім, часьці Браслаўскага, Дзісенскім, Лепельскім, у паўночных часьцях Барысаўскага а Лагойскага, у ўсходняй часьці Саньскога, Магілеўскага а Вялейскага[20] па мяккіх сугуках у першым складзе перад націсьненым *а* (*'а*) ё заўсёды *і* (*зімля́, вісна́*). Таксама ў другім складзе перад націскам па мяккіх сугуках ё *і*, калі ў першым перад націскам ё *а* або *'а* (*лісаві́к, віснаві́,* але *лясуна́*). У складох па націску на месцу этымолёгічных *е, 'а (я)* ё заўсёды *і (во́сінь, ме́сіц)* з выняткам *е, 'а(я)* канцавога (*то́я по́ля, Купа́льля, здаро́ньня, до́ля,* — назоўны склон адз. л. ўсіх трох, *у съві́рня, у ле́ся*).

Можна дапушчаць, што ў сярэднім дыялекце на цэлым яго чарасьле, сумежным із прасьцягам паўночнага нарэчча, ё дысымілячнае аканьне па мяккіх сугуках.

---

IV, Говор тудовлян Ржевского у., *Изв. ОРЯС,* XXXI, 1926, б. 305). У паветах Зубцоўскім, Старыцкім, Клінскім, Цьверскім цяперашняе аканьне асымілячнае паўстала з дысымілячнага (Дурново, 2, б. 68, 86). Гэта супоўна згаджаецца зь гісторыяю Вял. Княства Цьверскага. Праз мову Пскоўшчыны гл. Я. Станкевіч: Пскоўскі дыялект, *Запісы,* кн. I, Мюнхен, 1962, бб. 178—202.

[19] Дыялект вяцікі, штучна званы ў літаратуры рас. «южновеликорусским», цяпер у вялізарнай сваей часьці зрусыфікаваны, але і ў гэтай, зрусыфікаванаў часьці, разгляданы ў васпэкце гісторычным, ён належа да паўднявога нарэчча мовы влл. (гл. Ян Станкевіч: *Савецкае хвальшаваньне гісторыі Беларусі,* у Мюнхене 1956, б. 21—87). Георгіеў адцямляе, што меў бы быць ён і званы вяцікім (б. 24, вынаска).

[20] Паветы ўсюдых падаю подле адміністрачнага падзелу да 1-ае сьветнае вайны, рэдчас із падзелу, учыненага Палякамі памеж дзьвюх сьветных войнаў, бо савецкі (радзкі) падзел часта мяняецца.

Кадзе менаванаму дысымілячнаму тыпу аканьня па мяккіх сугуках адпавядае такі ж дысымілячны тып аканьня па мяккіх сугуках у пав. Медынскім — на заходнім баку ракі Медынкі і часткава на ўсходнім, у заходняй часьці пав. Калускага ды ў паветах Масальскім, Мяшчоўскім, Перамышльскім (у заходняй яго палавіцы), Жыздрынскім,[21] Казельскім,[22] Бранскім[23] а заходняй часьці Карачэўскага.[24] Гэты тып яканьня[25] ведамы ў мававедзе як беларускі або жыздрынскі. Заходні з гэтых двух аднолькавых тыпаў яканьня граніча з аканьням дысымілячным на яго захадзе, а ўсходні — на ўсходзе. Палажэньне іх, адылі, аднолькавае, яно азначаецца суседзтвам із аканьням дысымілячным, крывіцкім, ды з такім месцам гэтага суседзтва, ідзе сіла квывіцкая была найбольшая — супроці Полацку а Смаленску. Паўстала гэта яканьне пад уплывам сумежнага аканьня крывіцкага разам із некаторым усяленьням Крывічоў на прасьцяг драгавіцкі на захадзе і вяціцкі на ўсходзе, што сьцьвярджаецца археолёґічнымі дадзенымі.

У другім тыпе аканьня сярэдняга дыялекту кажнае ненац. *о, е* як па цьвярдых а зацьвярдзелых, так і па мяккіх сугуках перайшоўшы ў *а, 'а* (*пяравярнýць, пярадасётак, сінянькі*). Гэты тып аканьня добра ведамы ў пав. Ігуменскім (званым цяпер Чэрвенскім) і часьцях суседніх із ім, дзякуючы *Краёваму слоўніку Чэрвеншчыны*, М. Шатэрніка, у Менску 1929, у каторым фразы пераданы супоўна фонэтычна.[26] Вынятак адно ё ў *німá,*

---

21 Праз дысымілячнае яканьне на прасьцязе менаваных паветаў, гл. Дурново: *Карта*, бб. 8, 9, 15, 16). Апрача таго, гл. у Дурново, 1: да пав. Медынскага б. 233, Масальскага 10, 17, 199, Мяшчоўскага 10, 17, Перамышльскага 10, Жыздрынскага 70, 73 а 99.

22 Дурново, 1, 205, 207.

23 Там жа, б. 97.

24 Там жа, б. 204—205.

25 Дурново, 1, б. 35, кажа: «Ідзе дысымілячнае яканьне, там, відаць, звычайна (але, здаецца, не заўсёды) і дысымілячнае аканьне, хоць у бальшыні запісаў гэтага не адцямляюць». Гэты абмыльны пагляд, відавочна, быў прычынаю таго, што і ў Дурново (там жа) не паказана ідзе канчаецца дысымілячнае аканьне разам із дысымілячным яканьням і пачынаецца адно дысымілячнае яканьне. На менаваным прасьцязе з найбольшай праўдападобнасьцю можна дапусьціць дысымілячнае аканьне па цьвярдых сугуках толькі ў вузкім заходнім чарасьле на паўночным захадзе. Можна зацеміць, што гэта другое, усходняе дысымілячнае яканьне не на ўсім сваім прасьцязе так добра выдзержана, як заходняе. У ўсходнім сустракаюцца мясцовасьці зь некаторым узрушэньням яго характару.

26 На вялікі жаль, слоўнік гэты, як і іншыя слоўнікі, выданыя ў 1920-тых гадох, а таксама слоўнік Насовічаў 1870 г., — сконфіскаваны ў 1930-тых гадох, і карыстаньне імі дагэтуль забаронена. Таксама забаронена дасьледаваньне і нават менаваньне мовы вялікалітоўскае з прасьцягу РСФСР.

што, пэўне, у зьвязку зь *ні, ані* і ў займёнаў другога склону: *міне́, ціб́е, сібе́*. Праўдападобна, што гэты тып аканьня займае большы прасьцяг, а не адно тый, што адбіўся ў кадзе менаваным слоўніку Шатэрнікавым. Таксама сусім праўдападобна, што прасьцягі з такім жа чыста выдзержаным аканьням гэтага тыпу ёсьцека ў іншых мясцох сярэдняга дыялекту. Найпраўдападабней вялікую такую мясцовасьць складае заходняя часьць павету Вялейскага разам із вялікалітоўскай часьцяй пав. Сьвянцянскага, павет Маладзечанскі, усходняя часьць пав. Валожынскага а Смаргонская вол. пав. Ашмянскага. Такое ж аканьне можа быць у паўднявой палове павету Барысаўскага і ў заходняй часьці пав. Саньскога а Магілеўскага.

Прасьцяг гэтага супоўнага, паўнюсенькага тыпу аканьня сярэдняга дыялекту нійдзе не мяжуе з прасьцягам аканьня дысымілячнага.

У ўсім засталым прасьцягу дыялекту сярэдняга (зн. апрача часьцяў менаваных) ё аканьне таго ж тыпу, што ў Ігуменшчыне, але з малой эрознай дысыміляцаю. Гэтая з выняткам нячысьленых мясцовасьцяў абмежуецца адным прэфіксам *піра-* зь *пере-*, калі на ім няма націску *(піравярну́ць, піракулі́цца, піраx́од*, але: *пярэ́плат, пярэ́звы*) і, здаецца, у хормах памяншальных прыметнікаў *(чо́рнінькі)*. Выняткам жа з большай эрознай дысыміляцаю ё пав. Навазыбкаўскі і хіба іншыя паветы Севершчыны, ідзе ё *вянóчык, галасóчык*.[27]

[27] У правапісе вялікалітоўскім праведзена аканьне подле недысымілячнага аканьня дыялекту сярэдняга зь некаторым прыймом пад увагу дысымілячнага аканьня па мяккіх сугуках таго ж сярэдняга дыялекту. Правапіс вымагае перадаваць кажнае ненац. *о, е* па цьвярдых а зацьвярдзелых сугуках пераз *а (галава́, чапля́)*. Па мяккіх сугуках у першым складзе перад націскам пішацца *я (дзяжа́)*. У другім складзе перад націскам пішацца *я*, калі ў першым складзе перад націскам няма *а* або *я (лясуна́, сядуны́)*. Калі ж у першым складзе перад націскам ё *а* або *я*, то ў другім складзе перад націскам *е на пісьме* не пераходзе ў *я (лесаві́к, цецяру́к, сенажа́ць)*. У трэйцім а дальшых складох перад націскам этым. *е* перадаецца пераз *е (лесавікі́)*. У складох па націску звычайна *е* на пісьме застаецца безь пераходу ў *я (бе́ленькі, гуля́е, чы́стае по́ле)*, але з гэтага ё вынятки: першае, у наз.-прымальным склоне прым. мн. л. на канцу пішацца *я (жо́ўтыя, сі́нія)*; другое, ё *я* ў канчатках скланеньня прыметнікаў а займёнаў *(сі́няга, сі́няму, ізь сі́няй, на сі́няй)*. Што да вымовы, дык ніякае ненацісьненае *е* ня можа быць вымаўляна як *е*, але як *'а* або *і* (пішацца *лесаві́к*, але вымаўляецца *л'асаві́к* або *лісаві́к*). Кажу праз правапіс, апрацаваны ў 1918 г. Вялікаліцьвінамі на чале з Б. Тарашкевічам і прыняты ўсімі Вялікаліцьвінамі. Маскоўская ж «рэформа» 1933 г. вялікалітоўскага правапісу і нарматыўнае граматыкі і «паправа» іх 1957 г. нічога ня маюць супольнага з мовою вялікалітоўскай, заданьне іх — русыфікаца.

Да таго ж вялікага аканьня сярэдняга дыялекту належа й аканьня гавораў віленска-ашмянскіх. Ад вялікага аканьня дыялекту сярэдняга ў іх ё тый адхін, што ў хорме дакладнага склону адз. л. (genitivus sg.) прыметнікаў а прыметнікавых займёнаў ё на канцы *-о (бéлаго, сіняго, ніякаго)*, калі націск на аснове; а калі націск на канчатку, дык у тэй жа хорме ё *-ога (малóга, старóга, якóга)*. Зьдзеяла гэты адхін аналёґія націсьненага канчатку займёнаў *(яго, таго* а інш.). Хіба ўсюдых у гэтых гаворах ё частка *ні-* замест *ня-* зь *не-* перад складам *із а, 'а (я) (Ніхáй і сýдзяць, ніхáй і гавóраць, маéй натýры ні п і р а с т а н ó в я ц ь,* Вурняняты Аш.). Апрача таго, ё тут *і* ў прыметніках памяншальных (*сінінькі)*. Таксама вымаўляюць *дзівяты, дзісяты, дзісятка.* Гэтае малое іканьне тут новага, эрознага паходжаньня, у дасьледаваным імною *Аль Кітабе* 16—17 стг., напісаным дыялектам віленска-ашмянскім, яго няма, але хормы як *белаго, малога* ё ў ім сыстэматычна.

Побач із такімі хормамі, як *вяснавы́, мядзьвядзя́, цяцярýк, вялічыня́,* віленска-ашмянскіх гавораў *вір-* замест *вяр-* зь *вер-* у іх у такіх словах, як *вірабéй, віраш́чáка, вірацянó,* імне здаецца вымагае зьясьненьня іншага. Хіба *вір-* у іх залежа ад *в а р* і ўплыву такіх, як *зьвінéць, цьвітý,* старога *мярцьвіца* (у іх *і* зь *ъ)* і такіх як *міргáць,* хоць, праўда, ё й *вярхавóдка,* але ў ім *я* паддзержуецца гукам *е* ў *верх.*

У заходняй часьці пав. Валожынскага (пачынаючы ад местачка Вішнева зь яго аколіцаю), ужо належачай, подле сваіх хормаў морфолёґічных (2 ас. мн. л. імпэратыву на *-еця: нясéця, прасéця* і некаторыя іншыя), да дыялекту паўднёва-заходняга, аканьне такое, як у гаворах віленска-ашмянскіх. Таксама у належачай — з тае ж прычыны — да паўднёва-заходняга дыялекту мове пав. Горадненскага аканьне наагул такое, як у дыялекце сярэднім.[28] Адлі, подле ўсяго, што ведама праз мову паўднявое часьці пав. Менскага разам із м. Менскам (належаць яны да паўднёва-заходняга дыялекту), тут такое самае аканьне, як недысымілячнае дыялекту сярэдняга. Затым можна дапушчаць, што ё чарасло паўднёва-заходняга дыялекту, уздоўж сярэдняга дыялекту йдучае, у каторым аканьне такое, як у дыялекце сярэднім, з такім жа адхінам, як у гаворах віленска-ашмянскіх, або й бязь іх. Шырыня гэтага чарасла дагэтуль не ўстаноўлена.

Дасьледаваньнік аканьня разанскага, Б у д д е, піша: (Разанскае) «аканьне, якое мы назавем *поўным,* каб адрозьніць ад

---

[28] Гл. О. К у р и л о: Фонетичні та деякі морфологічні особливості говірки села Хоробричів на Чернігівщині. Київ, 1924, *Збірник Іст.-Філ. Відділу УАН,* т. 21.

аканьня маскоўскага, або няпоўнага, што розьніцца ад разанскага і якасьцяй, і існасьцяй. Наймя, разанскае аканьне ё ў тым, што кажнае ненацісьненае *о*, незалежна ад свайго месца ўзглядам націсьненага складу, вымаўляецца як *чыстае й адкрытае а* [падч. мае. Я. С.], ясьнейшае за маскоўскае, што рэдчас у гэткім прылучаю гучыць глуха, ня сусім выразьліва. У зьвязку з гэтай асаблівасьцяй стаіць і другая, дзеля якое мы й назвалі разанскае аканьне поўным; наймя, кажнае *е*, стоячы беспасярэдне перад націсьненым складам або беспасярэдне па націсьненым складзе, вымаўляецца як *я* або *а* па пярэдне-паднябенных (шыпячых) *ж* а *ш*. Прыкладам: *вясна́, ве́тяр, жана́, шасто́м* (снадзіўны адз. л. ад *шест*); дажа ... Гэтае разанскае нарэчча блізка падходзе да беларускага, што ўсе-ткі не дакладна выдзержуе мену *е* на гук *я*». (Будде: Рязань, б. 9). Гл. яшчэ вышэй на б. 397-ай гэтага арт. прыклады разанскага аканьня з памяткі XIV-га стг.

Падам яшчэ прыводжаныя Буддам факты з разанскага аканьня XV—XVII стг.: *жадѣно, городищо* 1433 г. (Рязань, б. 12[29]), *нашо дело* (там жа, б. 12), *душогубца выдати* (б. 13), *такжо* (б. 13) (усі з XV стг.), *Доніла* 1520 г. (б. 14). Словы *тотары, тотарский* штачасна блытаюцца і сустракаюцца побач із напісаньнямі *татарский, татары* і ў іншых лістох разанскіх (б. 14). *Рудняв* 1511 г. (б. 14), *ваевода* 1616 г., *пра то поместья* 1616 г., *то лотышевскоя поместья, Невѣдома где* 1617 г. (б. 15), *похали* 1621 г., *мая* 1674 г., *два рублі чатыре алтына* 1679 г., *чатырнатцать, горша* 1655 (б. 16), *да того поместья* 1683 г., *а от ямы направа дорогою, налево межею* 1630 (б. 17) і шмат іншых. *Занели есми мы* 1681 г. (б. 17). «Сустракаюцца кнегиня й княгиня (гл. Пискарев: *Древние грамоты и акты Рязанскаго края*, СПб. 1854, нр. 2, 3, 7, 8) и др.» (б. 13). Гэта тып аканьня вялікага, аднолькавы зь недысымілячным тыпам вялікага аканьня па цьвярдых і мяккіх сугуках сярэдняга дыялекту вялікалітоўскага. Ён займае прасьцяг на ўсход ад дысымілячнага яканьня, наймя, паўднявую часьць Тульскай губ. разам ізь м. Тулаю (Дурново, 1, бб. 141—146, 174), губ. Арлоўскую з выняткам павету Бранскага а заходняе палавіцы пав. Карачэўскага (Дурново, 1, бб. 184, 190), блізу ўсю губ. Разанскую (там жа, бб. 147—153), вяціцкую часьць губ. Тамбоўскае (там жа, бб. 153—156), вялізарную бальшыню Варанескае (там жа, бб. 156, 159, 161—165). У губ. Курскай вялікае яканьне «пашырана ў пав. Шчыгроўскім, у паўночнай а паўночна-ўсходняй часьці пав. Цімскага, часткава ў Курскім, Фацескім а іншых паветах губэрні (Халанский, б. 5). Празь вялікае аканьне

[29] Лікі ў дужках паказуюць бачыны ў кнізе Буддэ. о на месцу *е* па шыпячых сьветча, што ненац. *е* вымаўлялі як *а*.

ў Куршчыне падаець факты таксама Хабургаеў (гл. вышэй, б. 400). Зацемлю, што тут хормы 3 ас. адз. л. такія, як у сярэднім чарасьле сярэдняга дыялекту влл., значыцца пад націскам *-ть*, не пад націскам *-а(я)*, незалежна ад асновы (Халанский, б. 15—16: «у 3-яй ас. адз. л. *-ть* заховуюць або адкідаюць: *ходя, видя, пиша, хочя, гоня, жаря, ползая и гарить, вядеть, нясеть, бъеть, пъеть»*). У пав. Пуцівельскім «у дзеяслоўных хормах 1-ае ас. мн. л. ё *о* із зацьвярдзелым сугукам перад ім: *завом, пайдом, кума! самі тком»* (Халанский, б. 27), зн. так, як у гавары Ігуменшчыны.

Як у пав. Ігуменскім сярэдняга дыялекту влл., так і ў Куршчыне на прасьцязе вялікага аканьня ё мясцовасьці, ідзе няма ніякага адхіну ад пераходу ненац. *е* ў *'а* па мяккіх сугуках. Да іх належаць «прыкладам, гавара Сідзялёўкі ў Шчыгроўскім пав. а Лінова ў Пуцівельскім пав.» (Халанский, б. 4).

Значыцца, ізноў тут, як у дыялекце сярэднім, вялікае аканьне не граніча з паўночным дысымілячным нарэччам влл., але ё на праціўным ад яго баку; прасьцяг абодвых іх аднолькавы ўзглядам нарэчча дысымілячнага.

У іншых мясцовасьцях Куршчыны па мяккіх сугуках, «у першым складзе перад націскам і ў наступным па націску ў бальшыні ё *і*, хоць і ў гэтых (мясцовасьцях) сустракаюцца прылучаі зь *я* зь ненац. *е* перад націскам і па націску» (Халанский, б. 4). Няма сумлеву, што ў такіх говорах вялікае аканьне ўзрушана ўплывам літаратурнай мовы рас.. Тут маем дачыненьне з эрозяю.

Мова Курскае губ. ўлучна зь яе аканьням ё працягам мовы Севершчыны. У пав. Пуцівельскім (да Сейму) тыпічная мова Севершчыны ўсходняга яе чарасла. Тут звонкія захавалі званчыню на канцу слова (Халанский, б. 27).[30]

---

[30] Узглядам пав. Пуцівельскага я ў варт. «Беларусы Пуцівельскага павету б. Курскае губ.», *Веда,* 1952, б. 241, быў прышоўшы да вываду, што яканьне ў ім дысымілячнае. Затым, адылі, што Дурново, 1, б. 103, падаець із яго чэцьверць усіх прыкладаў зь *я* па мяккіх сугуках ў 1-м складзе перад націсьненым *а (я)* і што ня было скуль паўстаць тут дысымілячнаму яканьню, бо дысымілячнае, крывіцкае аканьне ад яго далёка, надабе ўважаць, што ўперад у пав. Пуцівельскім было яканьне вялікае. Цяпер жа яно ўзрушана «уплывам іншых тыпаў яканьня» (Дурново, 1, б. 104). Апрача таго «належа маць наўвеце, што запісы із царкоўнага сяла Козіна (Пуцівельск. пав.) зроблены Халанскім із словаў асобаў, у каторых мясцовая вымова магла быць нявыдзержанай. Гэта жонка дзякана а дачка ейная, відавочна, да больш культурнае клясы належачыя» (Дурново 1, б. 104, 105). Так сама сьветчаньне Халанскага праз вымову ненац. *е* ў пав. Пуцівельскім пярэча таму, што ён запісаў празь ненац. *е* мовы Козіна, і ё довадам вялікага яканьня ў гэтым пав.

На прасьцязе вяціцкім у паўночнай часьці Тульскае губ. і ўсходняй часьці Калускае губ. цяпер ё т. зв. мернае яканьне. Як усі прызнаюць, яно паўстала неорґанічна пад уплывам аканьня маскоўскага, каторае ізноў паўстала неорґанічна з расійскага оканьня пад уплывам мовы Вяцічаў[31] і было санкцыянавана інтэлігенцкай эміґрацаю вялікалітоўскай у Маскве.[32] З адзіночнымі выняткамі (Глінскія, Сымон Полацкі і некаторыя іншыя) эміґраца гэна хоця-няхоця была із заграбленых Масквою князстваў вялікалітоўскіх, галоўна Смаленскага а Северскага.

У дыялекце паўднёва-заходнім, апрача чарасла яго, сумежнага з дыялектам сярэднім, праз каторага аканьне зацемлена вышэй, і гаворак палескіх, морфолёґічная аналёґія ў ваканьню пасунулася ладне далей. У ім ё: *лéто, гóро, стáлосё, съпéлое жыто* і пад. — подле аналёґіі ізь *сяло́, жарало́, было́, дало́*. Ё й тыя адхіны ад супоўнага аканьня, каторыя ёсьцека ў гаворах віленска-ашмянскіх.

Кадзе менаванаму аканьню паўднёва-заходняга дыялекту влл. адпавядаюць вяціцкія гаворы з такім жа аканьням. Прыкл.: *на пра́ваё плячо́, бе́лаё ліцо́, на маё горё вялі́каё* (Гринкова, Коротоякский у., б. 571).[33]

---

[31] А. Шахматов: *Очерк современного русского литературного языка,* Ленинград 1925, б. 15. У гаворах расійскіх, — а, значыцца, таксама ў гавары маскоўскай, пакуль не паўстала ў ёй аканьне, — замест старых ненацісьненых *е, ъ, ѣ* было перад цьвярдымі сугукамі *о*, але перад мяккімі *і* альбо *е;* за *а* было перад мяккімі сугукамі *е*, але *'а* перад цьвярдымі. Гэтак было зь менаванымі самагукамі як націсьненымі, так і ненацісьненымі. Расійская мова (каторай аснову маюць маскоўскія гаворы), пераймаючы аканьне з мовы вяціцкае, наўперад магла прысабечыць вымову ненац. *о.* як *а* ды разам таксама вымову *'а* замест *о* на месцу старых ненац. *е, ъ, ѣ* перад цьвярдымі сугукамі. Але перад мяккімі сугукамі на месцу старых *е, ъ, ѣ* у першым складзе перад націскам было *і* або *е*, каторыя пад уплывам акаючага нарэчча не пераходзілі ў *а,* але заставаліся як *і* або пераходзілі ў *і.*

[32] П. Безсонов: *Белоруские песни,* Москва 1871, Перадмова, б. V, кажа: «Беларуская гавара зь яе вымоваю і так званым аканьням (вымоваю ўсюдых *а*, ідзе толькі бяз націску) перарадзіла сабою цэнтральнае нарэчча маскоўскае і стала цяпер адрозьнюючай пазнакаю апошняга». Запраўды ж эміґраца толькі санкцыянавала ў 17. стг. сваей акаючай вымоваю аканьне, за доўга да таго прышчэпленае моваю Вяцічаў.

[33] Бяру зь Філатава за пасярэдніцтвам Грынковае, бо нр. 3—4 РФВ, ідзе выдрукаваны запісы Філатава, імне быў непрыступны. Як можна судзіць із контэксту ў Грынковае, такія гаворы ё ў Варанескай губ. Ізноў такі й тут палажэньне прасьцягу вяціцкага гэтага тыпу аканьня-яканьня і яго ж прасьцягу ў дыялекце паўднёва-заходнім былі б аднолькавыя ўзглядам прасьцягу вялікага аканьня-яканьня: першы ляжыць на паўднявы ўсход ад яго, другі на паўднявы захад.

У недысымілячным аканьню-яканьню сярэдняга й паўднёва-заходняга дыялекту няма рэдукцы ненацісьненых самагукаў. Таксама ў Куршчыне «гук *а*, як спачатны, так і *а* з *о* гучыць адкрыта, ясна ў усіх гаворах з выняткам гавораў саяноў»[34] (Халанский, б. 3—4). У пав. Пуцівельскім «ненацісьненае *е* ў першым складзе перад націскам і ў наступным беспасярэдне за ім пераходзе ў *я*, ды гэта ясна адкрыта гучыць так, як у найчыстшых гаворах акаючых Шчыгроўскага пав. (прыкл. сяла Сідзялёўкі» (Халанский, б. 27).

Можна быць пэўным, што, прынамся да канца XVIII стг., вялікалітоўскае аканьне, як прасьцягу Вялікага Князства Літоўскага, так і вяціцкае з усходнім северскім было захаваўшыся добра. У XIX стг., асабліва ад 2-ое яго палавіцы, з пашырэньням у Расіі ўрадаў, ваеншчыны, школаў і правядзеньням чыгунак, ад Масквы а Пецярбургу йдучых, вытварэньням і прымусным пашыраньням рас. мовы літаратурнае з адначасным спабыцьцём усіх праваў мовы влл. яно падпадае пад уплыў літаратурнае мовы рас., і ў вадных мясцовасьцях абарачаецца ў тып аканьня маскоўскага («мернага»), у другіх настаець некаторая яго эрозя. Але, як бачым із дасьледаваньняў Будде канца XIX стг., яно было яшчэ ў досьць добрым стане да пачатку 20 стг. Пагоршаньне настала асабліва па рэволюцы 1917 г., калі, апрача школаў, зьявіліся калгаспы, і такім парадкам усе жыхарства лучыла пад беспасярэдні штадзенны ўплыў літаратурнае мовы рас., якою гукае адміністраца калгаспаў. Калі ў першых дзесятках XX стг. знаходзілі «дысыміляцу» ў некаторых мясцовасьцях вялікага аканьня вяціцкага, а цяпер быццам знаходзяць у некаторых ізь іх проста «дысымілячнае аканьне» (напэўна бяз чыстага тыпу яго), дык адно й другое паходжаньня эрознага.

З выняткам Рыглера, усі аўтары пісаняў, разгледжаных у гэтым артыкуле, дапушчаюць, што аканьне магло паўстаць пад

---

[34] Саянамі ў Куршчыне завуць перасяленцаў із забраных Масквою земляў Вялікага Князства Літоўскага. Жывуць яны атокамі сярод старога тубыльнага жыхарства ў пп. Курскім, Шчыгроўскім, Льгоўскім а інш. (Халанский, б. 35). Халанскі (б. 232) дапушчае, што гэта былі «бунтоўныя вечавікі пскоўскія, што не хацелі паддацца маскоўскаму ладу». Гісторычных дадзеных, адылі, празь месца паходжаньня іхнага няма, а подле асаблівасьцяў сваіх гаворак яны маглі быць зь якога-хоця дыялекту паўночнага дысымілячнага нарэчча влл., як пскоўскага, так і полацка-смаленскага. Спачатку яны былі перaселены да тульска-калускага прасьцягу (Халанский, б. 232), а пасьлей стуль на паўдня. Ё гісторычныя дадзеныя, што да Куршчыны была перaселена, прынамся часьць іх, у 1648 г. (Халанский, б. 41), зн., перад вайною Масквы зь Вялікім Князствам Літоўскім.

дзеяньням чужога моўнага субстрату (гл. Кузьняцоў 39, Колесаў 39, Хабургаеў 59, Рудзелеў подле Лыткіна (45) у вуснай гутарцы). Лыткін жа проста перайшоў да довадаў, што аканьне прычынена субстратам — мардоўскім! Аканьне быццам паўстала з рэдукаваных самагукаў, каторыя, подле Лыткіна, Мардва ў сваім моўным субстраце перадала Вяцічам.

У сваёй пісані праз мардоўскае паходжаньне аканьня Лыткін перш-наперш апіраецца на працы А. Монгайта «Из истории населения бассейна среднего течения Оки в 1-ом тыс. н. э.», *Советская археология, XVIII*, 1953, б. 151 а н. Бывае, што тое самае, перададзенае іншым, выглядае троху накш. Так, імне здаецца, ёсьцека і ў дадзеным прылучаю. Затым валей зьвернемся наўперад беспасярэдне да Монгайта.

Згодна зь іншымі Монгайт азначае спачатную сялібу Вяцічаў ля вышняе Акі, заразом цытуе з «Повести временных лет», што яны жылі «по Оце», а па «Оце реце, где потече в Волгу», зн., ля дольняе Акі, былі краі Мурамы, Чарамісы а Мардвы.[35] Дадам, што перад Вяцічамі прасьцяг ля вышняе Акі займалі Балты.[36] Славяне, прышоўшы да вышняе Акі, зьмяшаліся а зьліліся з Балтамі.

Пасьлей Вяцічы з вышнявіны Акі, а таксама з дольніх Жыздры, Зушы а Упы (даходзілі аж да ўтоку р. Масквы), колёнізавалі прасьцяг сярэдняе Акі. Гэта Монгайт пераконуюча даводзе (б. 168, 182). Сьветчаць праз гэта як пасьлейшыя летапісы, каторыя Монгайт цытуе (б. 184), так і археолёґічныя дадзеныя, з каторых відаць, што вяціцкія прыборы і абрад трупаспаленьня пашыраюцца із захаду на ўсход (б. 167).

У VIII—X стг. была вяціцкая колёня на вышнім Доне, дыкжэ там, у Боршове знойдзены вяціцкія гарадзішчы й курганы гэтага часу (Монгайт, б. 169).

---

35 У Лыткіна (б. 46) абмыльна: «Составитель *Повести временных лет*, работавший в начале XII в., помещает вятичей на Оке и Волге».

36 Гл. А. Спицын: Верхнеокские городища Дьякова типа (*Записки Отдел. Русской и Славянской археологии*, V, 1, 1903); Яго ж: Новые сведения о городищах Дьякова типа (там жа, VII, 1905—1907). У менаваных працах Сьпіцын ня быў яшчэ сусім пэўны ў балцкасьці вышнявоцкіх гарадзішчаў, адлі пераканаўся ў гэтым, што й выказаў у «*Працы Першага зъезду дасьледаваньнікаў беларускае археолёґіі й археоґрафы*», у Менску 1926, б. 113. П. Третьяков: Локальные группы верхнеднепровских городищ и зарубинецкая культура, *Советская археология*, 1960, I, б. 36, падаець ведамкі празь зьвязкі балцкае культуры Смаленшчыны і ля вышняе Акі з балцкаю археолёґічнаю культураю Прусаў. Сьветча праз спачатную балцкасьць прасьцягу ля вышняе Акі й гідроніма — назовы рэкаў: *Упа, Жыздра, Гардота, Вышняя й Дольняя Лошынка, Дугна, Квань* і інш. (Топоров 14, 15).

Прасьцяг на ўсход ад вышнявоцкіх Вяцічаў і на поўнач ад вышнядонскае калёні іхнае займала Мардва. Монгайт (б. 164) сьцьвярджае, што (мардоўска-) «разанскія магільнікі не даходзяць да плыні Дону і ня йдуць ля Акі на захад ад утоку ракі Масквы» і што «жыхарства, што пакінула (мардоўска-)разанскія магільнікі да верху Дону не даходзіла». Даходзіла да левага берагу сярэдняе Проні, там знойдзены гарадзішчы іхныя».[37] Сьветчаньням быцьця Мардвы на менаваным прасьцягу ё сьпярша т. зв. гарадзецкія гарадзішчы а пасьлей разанскія магільнікі.

«У X стг. старавечнае мардоўскае жыхарства зьнікае з прасьцягу сярэдняе Акі» (Монгайт, б. 177), «чэзнуць тады неўспадзеўкі (мардоўска-)разанскія магільнікі; і ў тым самым часе зьяўляюцца ўжо не радкія асобныя, а чысленыя славянскія селішчы. Відавочна, тут маем дачыненьне з *масавым уварваньням* [падч. мае — Я. С.] славян» (Монгайт, б. 181). Монгайт (б. 181) дапушчае, што гэта былі боршаўцы, жыхары вяціцкае колёні ля верху Дона, бо яны ў X стг. самахоць пакінулі свае селішчы, відаць, подле яго, пад пагрозаю Печанегаў, вызваленых ад Хазар Сьвятаславам кіеўскім у 964 г. Падоньне, адылі, «было глухім пагранічам рускае зямлі і бадай ці ўплывала на жыхарства сярэдняе Акі. Як мы бачылі, у старавячнейшай пары славянскія элемэнты прасуваліся на сярэднюю Аку перазь яе верх. Гэтак, хіба, застаецца і ў VIII—IX стг. Наадварот, шыферныя цяжарцы да вярцёнаў [вырабнялі іх у дзярвянскім Аўручу — Я. С.] знаходзім у разанскіх магільніках, але ані не сустракаюцца яны у магільніках боршаўскіх» (Монгайт, б. 171). Апрача менаванага, сіла ўварваньня на сярэднюю Аку была нясумернай із колькасьцяй боршаўцаў.

Было што іншае. Найпраўдападабней гэта быў прыход Вяцічаў із захаду. Усі Вялікаліцьвіны прышлі із захаду.[38] Найпась-

---

37 Лыткін (б. 46), цытуючы із Шахматава, згаджаецца зь ім, што «раньшы (перад аўтарам «Повести временных лет») летапісьменьнік падаваў іх (Вяцічаў) сялібу шмат болей на паўдня, ідзе-колечы ля Дону». Але, і ў *«Очерк-у современного русского литературного языка»* (бяру з выданьня ў Лнгр. 1925 г.) Шахматаў цьвердзіў, што Вяцічы жылі «ля берагу Дону й Азоўскага мора» і адтуль прышлі да Акі. У пасьлейшых, адылі, сваіх працах Шахматаў уважаў, што Вяцічы прышлі на сярэдняе Ўзвочча з Уздняпроўя на вышняй Аццэ і зь верху Падоньня (А. Шахматов: *Древнейшие судьбы русского племени,* Изд. Русского исторического журнала, Пгр. 1919).

38 Гл. А. Спицын: Археология в темах начальной русской истории, *Сборник статей по русской истории, посвященных С. Ф. Платонову 1882—1922,* II, 1922; яго ж рэфэрат у *«Працы Першага зьезду дасьледаваньнікаў беларускае археолёґii й археоґрафіі»,* у Менску 1926; яго ж Расселение древне-русских племен по археологическим данным (*ЖМНП,* VIII, 1899 г.,

лей із захаду прышлі Вяцічы. Праз іх прыход із захаду памяталі яшчэ на пачатку 12 стг. У «Повести временных лет» чытаем: «Радимичи бо и Вятичи отъ Ляховъ ... пришедъша сѣдоста».[39]

Каб прыйсці із захаду, надабе было ўперад пайсьці на захад, перасяліцца туды, бо як прабацькаўшчына Славян, так і Балтаў была на ўсходзе. Перасяленьне на захад, хіба, зьдзеялася ў VI стг., як быў перасяленскі рух Славян.

Як жа, да свайго перасяленьня на захад, зн. да VI стг., прасуваліся Вяцічы на ўсход? Бальшыня археолёґаў уважае, што элемэнты славянскае культуры пачалі праточавацца сярод жыхарства мардоўскіх гарадзішчаў а магільнікаў у сярэдзіне 1-га тысячагодзьдзя, а некаторыя, што гэта было наагул у 1-ай палавіцы 1-га тысячагодзьдзя (Монгайт, б. 167). Монгайт (б. 172) адцямляе, што Яхіменка (Ефименко) знайшоў гарадзецкую й пасьлейшую чудзкую (абедзьве мардоўскія) культуры, адлучаныя стэрыльнай праслойкаю. Адгэтуль ён учыніў вывад, што гарадзецкія гарадзішчы на якісь час пусьцеюць, а потым засяляюцца нанава. Монгайт жа знайшоў, што із 72 гарадзецкіх гарадзішчаў у 19-ёх няма такога слою (б. 172). Гэта значыла б, што на такіх, ідзе няма праслойкі, гарадзішчах Вяцічы мяшаліся з Мардвою. Калі б, адылі, Вяцічы выганялі Мардвіноў з гарадзішчаў іхных, або гэтыя самы іх пакідалі, і там зараз сяліліся Вяцічы, дык нябыцьцё праслойкі ня сьветчыла б празь мяшаньне. Што так бывала, адцямляе й Монгайт, кажучы, што, колёнізуючы, князі прыродна захапляюць найперш старавечныя ўмацаваныя селішчы, адбудовуюць умацаваньні (б. 173).

---

бб. 305, 308, 324, 337—38); яго ж: Могильники с каменными кистами в Виленской губ. (*Известия Археологической комиссии*, XII, 1904, б. 28). Праз прыход із захаду Вяцічаў падаець довады і Городцов, б. 146, бо «ў іх зямлі выяўлены тыя самыя рунічныя пісьмёны, катарыя былі ў заходніх, у васобнасьці польскіх Славян» (тм.).

[39] Як відаць із стара-вялікалітоўскага *лядскі*, прыметніка да *Лях*, жмудзкага *Lenkas* «Паляк», *Лензеніной* К. Порфіроґенэта ў De administrando imperio пры вылічаньню ім пляменаў вялікалітоўскіх, слова *Лях* ё памяншальнаю хормаю ад *Ляджанін* $\leqq$*lędjaninъ, як, прыкл., *Палеха* ад *Палешанін. Ляджанін* (ад *ляда* $\leqq$**lędo*) мусіла значыць «ралейнік на лядзе», зямлі з пад лесу. Таго ж значаньня спачатку мусіла быць і *лях*. Пасьлей Украінцы гэтак звалі сваіх заходніх суседзяў («іншыя Ляхове Люцічы, іншыя Мазаўшане, іншыя Памаране» Пачатнага летапісу) і Вялікаліцьвіноў, у тым ліку Радзімічаў а Вяцічаў, сусім незалежна адных ад другіх, бо як адныя, так і другія былі ралейнікамі на лядах. Затым летапісьменьнік напісаў, што Радзімічы а Вяцічы ад Ляхаў «пришедъша...». *Пр. Городцов*, б. 149: «Ня маем разумець, што Вяцічы былі Ляхі, але што яны жылі ў краю або побач із краям Ляхаў».

А вяціцкі абрад трупаспаленьня зьяўляецца ў разанскіх магільніках у V—VI стг. і складае ў раньніх 2-х «ня болей за 5—6%», у двух засталых ад 6,7—10% (б. 167). Подле Гараддова, б. 138, адылі, і Мардва «рэдчас паліла» нябожчыкаў. Мардвіны маглі троху пераймаць гэты абрад ад Вяцічаў.

Качаўнікі перасяляюцца барзьдзюсенька і ўсі чыста зь мясцовасьці перасяленьня. Ралейнікам перасяліцца ўсім вельмі цяжка, а ралейнікам-лядзянам лесавога краю немагчыма ўсім перасяліцца. А дыкжэ такім краям быў прасьцяг Вышнявочча. Затым маем дапусьціць, што пры перасяленьню Вяцічаў на захад у VI стг. часьць Вяцічаў засталася на старым месцу. Што гэна часьць была малая, відаць із таго, што яшчэ ў X в. «на гарадзішчах Вышнявочча ладных высяленьняў (на ўсход) не назіраюць» (Монгайт, б. 182).

Як жа прасувалася на ўсход, у зямлю Мардвы, гэта малая, засталая ад перасяленьня, часьць Вацічаў? «Чым зьясьніць, — пытаецца Монгайт, — што ў VIII—IX стагодзьдзях, у пару, як у іншых месцах былі чысьленыя славянскія гарадзішчы, у Разанскай зямлі . . . сустракаюцца яшчэ толькі адкрытыя славянскія селішчы, без умацаваньняў? Тым, што гэта часныя тарговыя фактры або, можа, на'т селішчы купцоў а рамесьнікаў, ля гасьцінцаў, ля рэкаў, на дзюнах лежачыя . . . Прасуваньне Славян у чудзкія [Чудзьдзю завець Монгайт усіх Фінаў — Я. С.] землі ў VIII—IX стагодзьдзях было зьвязана з торгам. У гэным часе быў вялізны торг паўночна-ўсходняе Эўропы з усходам, катарага сьветчаньням, апрача ведамкаў купцоў і ґеоґрафаў, ё скарбы ўсходніх манэтаў. Усі знаходы ў граніцах зямлі Вяцічаў скупіўшыся ля Акі ад Белева да Старое Разані і ля прытокаў Акі, дарогу ад яе сярэдняе плыні да верху скарачаючых. У граніцах разанскае плыні Акі знайшлі 19 скарбаў усходніх манэтаў VIII—IX стг. Іх галоўная часьць адкрыта на пескавых берагох Акі ў ваколіцах Разані а Ст. Разані, зн. там, ідзе адкрыты й найстаршыя селішчы славянскія. Хіба справядліва дапусьціць, што ўсходні гандаль, перазь зямлю Мардвы праходзячы, быў у руках Вяцічаў . . . Вельма магчыма, што славянскія купцы былі пасярэднікамі ў гандлю Чудзі, што да X стг. адно натуральную мену прызнавала і ня прымала дыргемаў за прададзеныя тавары. Затым гэтыя скупляліся ў руках Славян. У скарбах, апрача манэтаў, сустракаюцца й асобныя спакмяні ўсходняга, сярэднеазяцкага й іранскага паходжаньня» (б. 173). Прычына ж таго, што, замест колёнізацы, быў гандаль, у тым, што мала было застаўшыся Вяцічаў ад перасяленьня на захад у VI стг. За 4 стагодзьдзі (VI—IX), у каторыя галоўная маса Вяцічаў была на за-

хадзе, колёнізаца Вяцічаў на ўсходзе, ведзеная малой засталай часьцяй їх, ня толькі не пасунулася наперад, але, казаў тый, замерла ў сваіх малых пачатках, абярнулася ў гандаль.

Вяцічы, зварачаліся із захаду, загартаваўшыся на сваіх вялікіх дарогах, асабліва ж у бітвах ізь Немцамі, ішлі ваенным паходам. Мардва ж, посьле перамогі Вяцічаў над ёю, будучы коннымі пастухамі,[40] магла, падобна да качаўнікоў, борзда і ўся адысьці. Затым не засталося іх ані магільнікаў іхных на прасьцязе сярэдняе Акі.[41]

Зь менаванага відаць, што, з выняткам, хіба, пав. Касімаўскага, нельга гукаць праз якую, хоцьбы ў малой памеры, масавую асыміляцу Мардвы Вацічамі.

Прывяду колькі выказаваньняў Монгайта праз узаем'е Вяцічаў із Мардвою. «Найтрывальшымі этнічнымі пазнакамі ё пляменныя ўборы а прыборы. Раўнуючы іх із разанскіх магільнікаў да з магільнікаў сучаснае Эрзі (плямя мардоўскае), ня можам устанавіць беспасярэдняе згоднасьці» (б. 167). «Ля сярэдняе Акі, у мясцовасьцях, занятых старавечнай Мардвою ... не назіраем пераходных тыпаў рэчаў (праўдзівей іх надта мала і яны найчасьцей належаць не да мамэнту першае сустрэчы Славян і чудзкіх плямёнаў, а да часу найпазьнейшага іх узаем'я)» (б. 180). Культурных аналёґіяў у Вяцічаў із Мардвою «мала, але яны ё» (б. 178).

Калі Монгайт (б. 184) кажа: «сустрэўшыся (ля сярэдняе Акі) із старавечным мясцовым жыхарствам — Мардвою-Эрзяю, Вяцічы часткава іх асымілявалі і выціснулі», дык што да асыміляцы можна згадзіцца толькі ўзглядам пав. Касімаўскага.

Монгайт піша, што ў вархіўных матар'ялах із Старое Разані льга прасачыць узаем'е Вяцічаў із Мардвою. «Нават у позных слаёх XI—XII стг. сустракаюцца зьвінячыя прывескі, трапецападобныя а трыкутнія прывескі, прывескі лапападобныя, сюль-

---

[40] «Найважнейшым заняткам (мардоўскага) жыхарства (ля сярэдняе Акі) была гадоўля жывёлы, ладнае значаньне малі лаўба рыбы й паляваньне» (Монгайт, б. 152). Яфіменка бліжэй падышоў да занятку Мардвы. Ён, як перадаецъ Монгайт (б. 165), уважае, што «месцы (мардоўскіх) магільнікаў на лугавых прасьцягох, ля рэкаў, быцьцё ў пахаваньнях коні да язды конна і звычайныя снадзівы — коп'е, у тым ліку коп'е пушчальнае, сякіра — сьветчаць праз тое, што жыхарства (мардоўска-) разанскіх магільнікаў было коннымі пастухамі».

[41] Прыход Вяцічаў із захаду мусіў быць справаю вялікай а галасьлівай, праз яго было чуваць далёка, і пагатове мусіў ён адбіцца ў настрою боршаўцаў, вяцицкіх колёністых на версе Дону. І вось тады, ня будучы пэўныя бясьпечнасьці з паўдня, яны зьвярнуліся на сваю старую сялібу ля вышняе Акі. Як адцямляе Монгайт (б. 181), Грушэўскі таксама ўважаў, што боршаўцы пайшлі да сваіх родзічаў на вышнюю Аку.

гамы, спражкі. Часам яны належаць да старавечных тыпаў, магчыма здабытых у блізкім магільніку і другім навааратам скарыстаных, часам ё рэчмі, выраблянымі ў старой Разані дзеля далёкіх суседзяў — Мардвы, Мурамы. Гэткі, прыкл., адкрыты ў зямлянцы рамесьнікавай (у 1950 г.) выраб мардоўскіх касьнікоў або знаход літоўнае хормы да вырабу зьвінячых прывесак» (б. 186).

Што да некаторае блізіні народнае адзежы патомкаў Вяцічаў у б. Разанскай губ., дык «адныя элемэнты гэтае супольнасьці могуць быць залічаны да зьяваў позных, — прыкл. супольнасьць прыбораў з парловых маціцаў, іншыя — да вельма раньніх, што могуць паходзіць із супольнага жарала, а ня ё вынікам узаемных уплываў. Але некаторыя элемэнты супольнасьці ё рэзультатам сустрэчы, даўгога суседзтва і ўзаемнага ўплыву, паўсталага яшчэ ў старавеччу» (Монгайт, б. 188). Ня ё гэта, адылі, дастатным сьветчаньням асыміляцы.

А што да таго, што «Археолёґічныя матар'ялы таксама, як мы бачылі, не пацьвярджаюць супоўна апрычонага быцьця Вяцічаў і Мардвы» (Монгайт, б. 188), дык і малое ўзаем'е пацьвярджаюць яны толькі ўзглядам 1-ае палавіцы 1-га тысячагодзьдзя па Хрысту.[42]

Вывад Монгайтаў неспадзяваны, гэткі: «Часьць чудзкіх плямёнаў была на толькі асымілявана, што чыста шчэзла, пакінуўшы ўспамін праз сябе адно ў назовах плямёнаў і ў археолёґічных памятках» (б. 186). Гэта не згаджаецца з тым, што ён неаднойчы казаў у сваей працы. Такое асьветчаньне Монгайтава было можа прычынена тым, што зьвярнуўшы ўвагу на масавае ўварваньне Вяцічаў на прасьцяг мардоўскі і адначаснае шчэзьненьне там Мардвы, ён не ўсьвядоміў сабе, што Мардвіны маглі тады адысьці перад Вяцічамі, арганізаваным паходам ідучымі. Магло быць таксама навеяна прыкладам субстрату фінскага ў Расійцаў. Супроці неабмыльнасьці Монгайта сьветча тое, што ён прызнаець Крывічоў за асымілятараў фінскіх плямёнаў, праўда, неабачна паверыўшы Шахматаву а Сьпіцыну, а гэты — Шахматаву.

В. А. Городцов (бб. 139, 141, 143, 145) накшага пагляду. Ён зварачае ўвагу, што памеж Вяцічаў і Фінаў былі вельмі варожыя дачыненьні, праз што сьветча супоўная культурная апрычонасьць, нябыцьцё ніякае падобнасьці ў рэчах. Гэта, — прыз-

[42] Літаратуры антраполёґічнае, Вяцічаў датыкаючае, я ня мог скарыстаць, не знайшоўшы яе ў Ню Ёрку. Калі якая блізіня памеж Вяцічаў і Мардвы і адцямляецца ў ёй, дык гэта можа датыкацца жыхараў Касімаўскага пав. або зьясьняцца заганаю дасьледаваньня.

наець ён, — стала прычынаю таго, што мардоўскае жыхарства было выцісьнена Вяцічамі, прышлымі на прасьцяг сярэдняе Акі.

Супроці гэтага і іншых ясных, супоўна пераконуючых довадаў (на мен. бачынах) Гарадцовых бялеюць праціўныя ім млявыя довады Монгайтавы. Іншыя довады Гарадцовы супроці мяшаньня Вяцічаў з Мардвою зводзяцца да наступнога: зямля Разанская была надзвычайна багатая, але без фізычна-ґеоґрафічных пераказаў, зн. прыступная да заваяваньня; а, з другога боку, пярэдняе жыхарства яе мела куды адступаць, бо перад ім на поўначы а ўсходзе былі вялізарныя пусташы, таксама багатыя, дарма што не раўня разанскім. Затым: «Нэолітычная людзіна заняла сваімі стаянкамі ўсю Аку. Прышла на яе берагі паўднявая людзіна бранзовае эпохі — культура нэолітычнае людзіны шчэзла на заўсёды. Прышлі Фіны — шчэзьлі сьляды бранзовае людзіны. Прышлі Славяне — шчэзьлі Фіны» (Городцов, б. 141). Ня мірна забралі Вяцічы зямлю Разанскую: «Што ўзвоцкія Фіны не дарма аддалі Славянам свае чудоўныя землі, на гэта паказуе лік збудаваных імі гарадзішчаў на берагох Акі, што выглядалі быццам адна бесьперарыўная баявая позыца (у сярэднім адно гарадзішча прыпадае на тры вярсты берагавое ліні Акі). Назіраючы ўсюдых гэтыя заглухлыя памяткі крывавых ходаньняў, міма волі прадстаўляеш, што ўсе фінскае жыхарства сьпяшалася як мага баржджэй і мацней узброіцца; і так гэта было, бо варагі стаялі за яго плячыма. У гэным часе ў сьмяротнай ва́дзе стваралі баявую работу. Ні водная высокая строма, ні водзін хоць крыху абараняны яругамі берагавы мыс не заставаліся не занятыя пад умацаваньне. Але ня выдзяржалі цьвердзі і перайшлі ў рукі новых гаспадароў-Славян» (Городцов, 143—144). Дыкжэ гэта мусіла стацца тады, як прышлі із захаду Вяцічы ўзброеным паходам (накш бы не змаглі прысьці). Боршаўцы гэтага дапяць не маглі.

А як Мардва ня стала субстратам Вяцічаў, дык і ня было ў іх моўнага субстрату мардоўскага, каторы бы, подле Лыткіна, прычыніў рэдукцу ненацісьненых самагукаў у мове вяціцкай, з чаго быццам паўстала аканьне. Супроці гіпотэзы Лыткінавае прамаўляе й тое, што з такімі ж рэдукаванымі самагукамі была свая Мардве Мяшчэра, але, стаўшыся субстратам Расійцаў у Валадзімерскай губ. (Мяшчэра займала прасьцяг ля рэкаў Пры, Полі, Гусі а Колпі, левых прытокаў Акі) ня прычыніла там аканьня. Дый, калі рэдукаваныя самагукі мардоўскія мелі быць прычынаю аканьня ў Вяцічаў, дык чаму яны не прывялі да таго ў мове самае Мардвы? Гіпотэза Лыткінава ані ня выдзержуе крытыкі.

Георгіеў (Георги́ев) у вышменаванай пісані (*Вопросы языкознания,* 1963, нр. 2, б. 20—29) а ў кнізе «*Вокалната система в развоя на славянските езици*» даводзе, што ў мове праславянскай ня было фонэмы *о*, а была фонэма *ă*, каторае, подле яго, у кажнай мове славянскай асобна, сьпярша перайшло ў *о* пад націскам, а пасьлей, наконадні славянскага пісьменства, парайшло ў о і ў складох ненацісьненых. Засталося, адылі, неперайшоўшы ў мове вялікалітоўскай («беларускай») і ў дыялектах «паўднёва-велікарускім» а «сярэдне-велікарускім» і ў дыялекце смалянскім мовы баўгарскае. У гэтым толькі ненац. *о* перайшоўшы ў *а,* заўсёды ў складзе перад націскам, а па націску не заўсёды (Вокалната..., б. 29).Прылучаі ненац. *о* ў складох па націску Георгіеў зьясьняе прычынамі морфолёґічнымі (Вокалната, б. 43). Апрача быцьця аканьня ў кадзе менаваных мовах, Георгіеў апіраецца на тым, што ў словах славянскіх (звычайна ў ґеоґрафічных назовах), перанятых да моваў неславянскіх (галоўна да грэцкае), бывае *а* (а ня *о*). Апрача таго, як довады да свае гіпотэзы, прыводзе колькі прыкладаў з *а* на месцу цяперашняга *о* із старое пары моваў славянскіх (Вокалната, б. 69). Прыклады такія, адылі, могуць быць начай зьясьнены. А што датыкаецца *а* (а ня *о*) з прасьцягу аканьня вялікалітоўскага, дык яны толькі сьветчаць праз аканьне ў мове влл.[43]

Рыглер (б. 38), апіраючыся на фонэтычных асаблівасьцях мовы славінскае, як яны праяўляюцца ў яе гісторыі, давёў, здаецца імне, што славінскае аканьне паўторнае. Гэта прамаўляе за тое, што, з выняткам мовы влл., ня было *ă* ў іншых мовах славянскіх таксама тады, як яны былі дыялектамі мовы прасл.

Узглядам славянскіх назоваў мясцовасьцаў з *а* (а не *о*) ў мове грэцкай і іншых, дык, уважаю, можна згадзіцца з Рыглерам (б. 45), што, першае, цяжка іх дакладна датаваць; другое, у перанятках грэцкіх із мовы славянскае *а* магло паўстаць у мове грэцкай пад уплывам некаторых сугукаў. Апрача таго, калі *а* ў мовах славянскіх перайшло ў *о* ў пару «траха беспасярэдне перад зьяўленьням найстаршага пісьменства славянскага» (Вокалната, б. 52), дык, хіба, *а* адбілася б у іх у сьцягу прылучаёў. Калі ў мовах славянскіх *ă*>*о*, дык гэта магло зьдзеяцца й шмат

---

43 Фактычная папраўка: слова *розум* ужываюць у мове влл. у ўсіх яе гаворах, і няма ніякае прычыны ўважаць яго за ўкраінізм, як гэта робе Георгіеў (Вокалната, б. 73). Шмат разоў (і толькі з *о*) *розум* сустракаецца ў «Аль Кітабе» 16—17 стг., памятцы мусульманска-вялікалітоўскай, пісанай народнай моваю із супоўным аканьням. Ня толькі ў гэтым слове, але і ў іншых словах влл. ё о ў прэфіксе *роз-* пад націскам (*розны, розьніца, розніць -іцца*).

раней, таксама ў пару апрычаньня прасл. з іэ.; што іншае, калі было ўмяшаньне акаючага субстрату. Каліж бы *ă*>*o* зьдзеяўся шмат пасьлей, але яшчэ ў мове праславянскай, дык гэта ані не перачыла б паўстаньню аканьня ў мове влл. пад дзеяньням моўнага субстрату балцкага. Як бачым, гіпотэза Георгіева праз спачатнасьць аканьня таксама карысная, адно што надабе яе прытарнаваць да мовы влл.

Карскі ў рэцэнзі (у Изв. РЯС АН, 1929, II, 2, б. 742 і н.) баўгарскае граматыкі Ст. Младэнова меж іншага кажа: «Рас. дасьледаваньніку кідаецца ў вочы аднолькавасьць баўгарскае рэдукцы самагукаў (аканьне) з паўднёва-велікарускай а беларускай. Робіцца ясна, што адны й тыя самыя зьявы бываюць у вабедзьвіх мовах пры аднолькавым палажэньню. Што датыкаецца гавораў беларускіх, дык прыродна прыпамінаецца адна рэч, на каторую ў сваім часе зьвярнуў маю ўвагу М. Дрынаў (Дринов), на ймя, што адно з асноўных плямёнаў, каторыя ўвыйшлі ў склад Беларусаў — Дрэговічы — мусіць свае племені Draguvitai, што жыло ля Салуня, ідзе была дамова Касьцянціна а Мэтода, каторыя паклалі мясцовае нарэчча ў васнову літаратурнае мовы старабаўгарскае. Тое ж часткава надабе сказаць і аб аддзеле сугукаў. Гэтак, на дзіва, у нова-баўгарскай мове маем *черево, череша, черен (чирен), череп, черясло* і інш. з паўнагалосьсям, сустракаюцца прылучаі зацьвярдзеньня *р* (б. 132) . . ., выпаданьне *ж* памеж самагукаў (б. 153), як у беларускай: *кае* — кажа, *мое* — можа і пад».

«Макядонскія Драговічы або Дрэговічы . . . упяршыню зьяўляюцца нам каля 669—675 гг., як яны разам із іншымі Славянамі аблягаюць Салунь . . . У 877 г. сустракаем на Царыградзкім субору Пётру, біскупа Драгавіцкага (Druguvitiae або Droguvitiae), а потым у Ільвоўскім сьпісаньню ў Кодзіна знаходзім Драговіцкае біскупства (Druguvitiorum, Druguvitiae)», Шафарик: *Славянские древности,* II, 1, Москва 1848, с. 369. Драговічы (Draguvitiae) каля 886 г., подле словаў Яна Кашэніяты, жылі ў ваколіцах места Салуня (тм., б. 89); яны ўраблялі ўродлівыя салунскія раўніны і плацілі дань гэтаму месту (тм., б. 68). Каля 946 г. Драговічоў знаходзім у краю Славян палабскіх (Шафарик, там жа, II, 3, б. 214).

Адно з плямёнаў вялікалітоўскіх, што займала прасьцяг памеж Прыпяці й Дзьвіны, аўтар Пачатнага летапісу завецъ Драговічамі (дреговичи). Гэтым жа імям названа славянскае плямя, ля Лабы жывучае, і тым жа імям неаднойчы мянуецца ў памятках славянскае плямя, што ў VII—IX ст. жыло ў Макядоні. Ужо з гэтага аднаго можна было б дапушчаць, што маем тут дачыненьне з часьцьмі таго самага племені. А як гэта пацьвярджаецца

дыялектолёґічнымі дадзенымі, дык можна яго ўважаць за пэўнасьць. Значыцца, былі б гэта часьці влл. плямені Драговічоў. Падзяліліся яны, відавочна, тады, як Драговічы, разам із іншымі пляменамі вялікалітоўскімі, былі перасяліўшыся на захад. Пад націскам Немцаў бальшыня іх зьвярнулася назад да свае бацькаўшчыны, другая часьць прабілася на Балканы, а частка трэйцяя засталася ля Лабы. Час зьяўленьня Драговічоў у Макядоні таксама згаджаецца з часам расьсяленьня Славян.

Дык аканьне смалянскага дыялекту мовы баўгарскае ё некаторым адбіцьцём аканьня вялікалітоўскага, каторае паўстала пад дзеяньням моўнага субстрату балцкага. У дыялекце смалянскім мовы баўгарскае *а* з *о* у складох перад націскам ё «чыстым *а*», рэдукца яго бывае толькі ў складох па націску (Георгиев, Вокалната, б. 26), зн., так, як у некатарых гаворах аканьня влл. Супоўнае ідэнтычнасьці памеж баўгарскага і вялікалітоўскага аканьня ня можам спадзявацца, бо балканскія Драговічы асыміляваліся зь мясцовым славянскім жыхарствам. Затым із мовы іхнае засталіся адно астачы.

Праўда Шэрахава, што спачатнае (а не пасьлейшае, перанятае) аканьне ё ўсюдых, ідзе былі Балты. Але прасьцяг Балтаў на паўдні Шэрах абмежуе паўднявымі граніцамі балцкіх гідронімаў, выяўленых Бугам.[44] Шэрах кажа: «Паказаныя Бугам, паўднявыя граніцы (Балтаў) могуць быць прыняты як найпраўдападабнейшыя. Яны зыходзяцца з граніцамі дыялектаў із спачатным, а не перанятым аканьням» (б. 84). Бугам, адылі, дасьледаваньні гідронімаў ня скончыліся. Дальшыя дасьледаваньні выявілі балцкія гідроміны і на паўдня ад Прыпяці, асабліва ў усходняй часьці, дыкжэ там, ідзе быў моцны асяродак Дзярвян.[45] Жылі Балты і ля Дзясны, аж да ўтоку яе ў Дняпро.[46] Таксама ля Сейму, прытокі Дзясны.[47] Б. Рыбакоў (Рыбаков) кажа, што паўднявая граніца бранзовых фібулаў з калярыстай эмальлю ў IV—V стг. праходзіла ўздоўж вададзелу рэкаў Росі й Краснае. Ён падчыркуе, што «жыхары Кіеўшчыны, нашэньнікі эмалевых фібулаў, былі зьвязаўшыся із землямі Радзімічаў, Вяцічаў, Крывічоў а Літоўцаў» («Древние Русы», *Советская археология*, XVII, 1953, бб. 92, 94, 95). Гэта была дамова Дзярвян, з каторае

---

[44] K. Buga: Aisčiu Praseitis vietu vardu šviesoje, *Rinktiniai raštai*, III, б. 732, з мапаю, што паказуе паўднявую граніцу балцкіх гідронімаў уздоўж Прыпяці, пачынаючы ад месца, што троху на захад ад Пінску, проста на ўсход да Дняпра.

[45] В. Н. Топоров и О. Н. Трубачев: *Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья*, М. 1962, с. 232, 233.

[46] Там жа, б. 232, 234.

[47] Там жа, б. 231.

яны пасьлей былі адсунены к поўначы. Менаванае Рыбаковам згаджаецца з тым, што знайшоў у раскопах празь Дзярвян археолёґ В. Антонович (Археол. Ком. *Материалы по археологии России,* Нр. 11. Древности Юго-запад. края, Спб. 1893). На Падляшшу характар славянскі маюць толькі назовы невялічкіх рэчак,[48] іншыя балцкія.

Прынамся на ўсходзе Эўропы, аканьне, як зьява орґанічная, ё толькі ў мове вялікалітоўскай; іншыя мовы славянскія яго ня знаюць. Як зацемлена вышэй, аканьне ў літар. мове расійскай і ў т. зв. сярэдняй велікарускай гавары не орґанічнае, але пераняттае з мовы суседняга вялікалітоўскага плямені Вяцічаў.

Уважаю яшчэ за балцкія гэткія рысы мовы вялікалітоўскае: дыфтонґі *ie, yo* ў паўднявым нарэччу влл., мену або зьліцьцё *ч-ц, ж-з, ш-с* і шапятлявую вымову *ź, ś* у нарэччу паўночным, зьяўленьне ў некаторых прылучаёх *-ър-*, *-ір* на месцу прасл. санантных *р*, патронімна-дэмінутыўны суфікс *-ук (Антук)* і наапошку ўжываньне дзеяпрыслоўя мін. часу на *-шы* ў функцы прэдыкату; разгледжу іх у васобнай працы. На разгляд іх у гэтым артыкуле не дазваляе яго памера.

*New York*

## СКАРАЧЭНЬНІ

### Назовы мясцовасьцяў

*Аш.* — Ашмянскі п.; *Вурняняты* — сяло Вурняняты Ашмянск. п.; *Дрыс.* — Дрысенскі п.; *Ск.* — Сакольскі п.; *Сц.* — Слуцкі п.

### Іншыя скарачэньні

*адз.* — адзіночны (лік)
*арт.* — артыкул
*ас.* — асоба
*б.* — бачына
*варт.* = арт.
*влл.* — вялікалітоўскі
*вол.* — воласьць
*і г. д.* — і гэтак далей
*гл.* — глянь
*этым.* — этымолёґічны
*зам.* — замест
*зн., знач.* — значыцца
*і.-э., інд.-э.* — індоэўропскі
*і пад.* — і падобна, -ны
*л.* — лік
*м.* — места
*мен.* — менаваны
*мн.* — множны (лік)
*н.* — наступны
*наз.* — назоўны (склон)
*нац.* — націсьнены
*ненац.* — ненацісьнены
*п., пав.* — павет
*падч.* — падчыркненьне
*п., пол.* — польскі
*прасл.* — праславянскі
*пр.* — прыраўнуй
*прыкл.* — прыклад, -ам
*р.* — рака
*рас.* — расійскі
*скл.* — склон
*тм.* — там жа
*укр.* — украінскі
*чэс.* — чэскі

48 T. Lehr-Spławiński, Rozmieszczenie geograficzne prasłowiańskich nazw wodnych, *Rocznik slawistyczny,* Kraków, XXI, I, 1960, str. 5 i n.

## Літаратура

Будде: Рязань — Е. Будде: К диалектологии великорусских наречий. Исследование особенностей рязанского говора, *Русский Филологический Вестник*, XXVII–XXVIII, Варшава 1892.

Вокалната — В. Георгиев: *Вокалната система в развоя на славянските езици*, София 1964.

Городцов — В. Городцов: Древнее население Рязанской области, *Изв. ОРЯС*, XIII, кн. 4, СПб. 1908.

Гринкова — Коротоякский у. — Н. Гринкова: Очерки из русской диалектологии, VII. О русских говорах б. Коротоякского уезда Воронежской губернии, *Изв. РЯС АН*, т. 3, Ленинград 1930.

Дурново — Н. Дурново: *Диалектологические разыскания в области великорусских говоров. Южновеликорусское наречие*, 1, Москва 1917; 2, 1918.

Дурново: Карта — Н. Дурново: Карта Калужской губернии, *Сборник ОРЯС АН*, т. 76, СПб. 1904.

Дурново, Соколов — Н. Дурново, Н. Соколов и Д. Ушаков: *Опыт диалектологической карты русского языка в Европе с приложением Очерка русской диалектологии*, Москва 1915.

Монгайт — А. Монгайт: Из истории населения бассейна среднего течения Оки в 1-ом тыс. н. э., *Советская археология*, XVIII, Москва, 1953.

Седов — В. Седов: К происхождению белорусов (проблема балтского субстрата в этногенезе белорусов), *Советская этнография*, Москва 1967, № 2.

Топоров — В. Топоров и О. Трубачев: *Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья*, Москва 1962.

Халанский — М. Халанский: Народные говоры Курской губернии, *Сборник ОРЯС АН*, т. 76, № 5, СПб. 1904.

Шэрах — Jury Šerech: Problems in the formation of Belorussian, *Supplement to «Word»*, vol. 9, New York, 1953.

Шсл. — М. Шатэрнік: *Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны*, Менск 1929.